11 сакавіка 2016 | №10 (475)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Якая яна, праца маладога настаўніка

стар. 5



# Мяккая сіла замест зялёных чалавечкаў

## Ці стане Беларусь чарговай ахвярай расійскай агрэсіі?



Сяргей ПУЛЬША

Тэма «зялёных чалавечкаў» і «ветлівых людзей» у Беларусі не пакідае розумы грамадзянаў, якія клапоцяцца пра краіну. Мікалай Статкевіч у эфіры праграмы «Прасвет» тэлеканала «Белсат» агучыў мажлівую дату анексіі Беларусі. На ягоную думку, гэта 2018-ы год.

«Зараз узнікае такая сітуацыя, каб перад прэзідэнцкімі выбарамі ў Расіі ў 2018 годзе, каб атрымаць хоць нейкі поспех, кіраўніцтва Расіі захоча забраць у свой склад беларускую тэрыторыю. Бо ім трэба нешта прад'явіць перад выбарамі грамадству. Расія за свае ўсё меншыя грошы патрабуе ўсё больш. І ўжо патрабуе нашу дзяржаву», — заявіў палітык.

Сапраўды, для Расіі ў 2018-м годзе наступіць у нечым вызначальны час. Невядома, што адбудзецца за два гады ў «мабілізацыйных» праектах уладаў РФ — Данбасе і Сірыі. Зараз канфлікт на Усходзе Украіны перайшоў у «замарожаную» фазу, а ў Сірыі, нібыта, «рэжым спынення агню». Што ў далейшым можа прывесці (будзем спадзявацца), і да ўрэгулявання канфлікту.

Між тым, сітуацыя ў расійскай эканоміцы далёка не бязвоблачная, і нейкіх падстаў для паляпшэння пакуль што не бачна. Такім чынам, цалкам верагодна, што Расіі спатрэбіцца новая «маленькая пераможная вайна», і, па меркаванні Статкевіча, на ролю «хлопчыка для збіцця» падыходзіць Беларусь.

Сітуацыя ўскладняецца яшчэ і тым, што ў 2018 годзе па расійскай Канстытуцыі вычэрпваецца тэрмін паўнамоцтваў Пуціна. Чарговы «другі тэрмін запар» Пуціна ў 2018 годзе заканчваецца. І трэба нешта прыдумаць, каб застацца ва ўладзе на «пазачарговую» кадэнцыю.

Таму перасцярогі Мікалая Статкевіча маюць пад сабою пэўную глебу. Адсюль вынікае толькі адно пытанне: «А яно Расіі трэба?»

Ні ў якім разе не трэба, і нават вельмі небяспечна, упэўнены ваенны эксперт Аляксандр Алесін. «Я з вялікай павагай стаўлюся да Міколы Віктаравіча, ён усё ж прафесійны вайсковец, але гэтыя перасцярогі празмерныя», — мяркуе Алесін.

Ёсць некалькі чыннікаў, чаму анексія Беларусі для Расіі не выгадная, кажа эксперт. Першы — у тым, што яна не выгадная ў наўпроставым, эканамічным сэнсе. «Кожная такая вайсковая аперацыя каштуе велізарных грошай. У Расіі зараз каменем на шыі — Украіна і Сірыя. Не скончыліся праблемы з Турцыяй, якая мяжуе з адным з адданейшых саюзнікаў Расіі — Арменіяй. І зараз у Арменію перакідваюцца вайсковыя часткі, зброя, умацоўваецца мяжа... У самой Расіі скарачаецца вайсковы бюджэт. Канешне, Расія — моцная дзяржава, але пацягнуць яшчэ адну ваенную авантуру ёй проста не па сілах», — лічыць Алесін.

Другі чыннік — стратэгічны. Беларусь застаецца адзіным адданым саюзнікам Расіі на заходнім кірунку, і Расія не можа дазволіць сабе страціць сінявокую. «Пра гэта кажуць нават расійскія вайсковыя эксперты, у прыватнасці — генерал Івашоў. Яны прызнаюць, што прайгралі, згубілі Украіну,




**Беларусь апынулася адзіным калідорам для Расіі на Захад**

і не могуць сабе дазволіць згубіць Беларусь. Наадварот зараз трэнд — улагодзіць саюзніка, не раздражняць Лукашэнку. Нават калі тут не будзе расійскай авіябазы, кажуць яны, усё роўна яны могуць прылецець сюды ў любы момант. А калі яны страцяць саюзніка? Таму і Расія, нягледзячы на свае эканамічныя складанасці, выдала нам двухмільярдны крэдыт», — кажа эксперт.

Пасля страты Украіны, працягвае Алесін, Беларусь апынулася адзіным калідорам для Расіі на Захад. «Я заўсёды параўноўваю Расію з джынам у бутэльцы, дзе рыльца бутэлькі — Беларусь. Падзеі з блакаваннем расійскіх фураў ва Украіне паказалі, як лёгка заторкнуць гэтае рыльца. Калі Расія анексуе Беларусь, Захад гэтае рыльца заторкне, і ў Расіі проста не будзе калідору да сваіх асноўных гандлёвых партнёраў», — зазначае Алесін.

Анексія Беларусі нанясе Расіі каласальныя іміджавыя страты, бо яна зробіць замах на «выспу стабільнасці» ў рэгіёне і краіну, «якая прытрымліваецца прынцыпаў добрасуседства на 360 градусаў», падкрэслівае Алесін. «Да таго ж Расія такімі дзеяннямі разбурыць усё, што стварала апошнія дзесяцігоддзі праз розныя саюзы і АДКБ, імкнучыся абкружыць сябе лаяльнымі краінамі. Яна імгненна прадэманструе, што яна — не светач, а проста аскепак імперыі з такімі ж амбіцыямі», — разважае эксперт.

Таму, на ягоную думку, «зялёных чалавечкаў» з боку Расіі нам чакаць не выпадае. Расія будзе працягваць абапірацца ў дачыненні да Беларусі на «мяккую сілу», палітычныя, эканамічныя ды ваенна-тэхнічныя сродкі.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### СВЕТЛАГОРСК. Інвалід чатыры гады не можа трапіць дамоў

**З 2012 года туляюцца па здымных кватэрах і «манеўранаму» жытлу жыхары дому №10 па вуліцы Леніна Светлагорску. А тым часам камунальныя службы ўсё рамантуюць іх дом.**

Сярод тых, каго «капітальны рамонт» выгнаў на чатыры гады са свайго дому — грамадскі актывіст, інвалід першай групы Юрый Ляшэнка. Ён ужо мае такі стос дакументаў — адказаў з розных інстанцый, што пры майстэрстве можна было неяк склеіць з іх падобны па памерах двухпавярховы дом, а справа нічк не рухаецца.

«Камунальныя службы пры рамонце так завіхаліся, што згубілі мае дзверы, некуды дзелі маю падлогу... Дзверы, праўда, знайшліся, — яны купілі новыя. А зараз пачынаюць дарабляць недаробкі ў кватэры — па прадпісанні пракуратуры, якая даручыла разабрацца экспертам, і яны знайшлі як мінімум дванаццаць парушэнняў якасці рамонту, які выканалі камунальныя службы. Тым часам дзверы могуць пашкодзіць, але каго гэта хвалюе? Зняць дзверы, зноў потым павесіць? — у камунальных службаў, па іх словах, на гэта няма сродкаў. Яны падаюць на мяне ў суд, каб я забяспечыў доступ ім у кватэру», — распавядае грамадскі актывіст.

У судзе камунальнікі сцвярджаюць, што кіруюцца законам. «А калі пасля шматлікіх скаргаў у надзорныя інстанцыі выявілася, што пры капітальным рамонце недзе «растварыліся» 3 мільярды рублёў — ніхто пра закон не ўзгадваў. Але і я не супраць, каб яны ўрэшце прыйшлі і дарабілі рамонт, пра што і заявіў на судзе. На практыцы ж мы ім прадставілі ключы, толькі папрасілі скласці акт — хто і за што адказвае пры рамонце ў кватэры, якія працы тут будуць выконвацца. А камунальнікі адмовіліся падпісваць паперу — маўляў, нічога падпісваць не будзем! А як гэта? Зноў пашкодзяць вокны, дзверы, падлогу, яшчэ нешта — і ніхто не адказвае за гэта?» — задаецца пытаннямі Юрый Ляшэнка. Пакуль жа камунальнікі тузаюцца з ім праз суд, які ўжо таксама стаміўся ад праблем «Леніна, 10». Бо камунальнікі ўжо неадназова падавалі на суд на жыхароў дому — каб яны высяляліся з «манеўраных» кватэр і пайшлі жыць у кватэры на Леніна, 10, у якіх пасля капітальнага рамонту жыць стала немагчыма. Суд жа пакуль стаў на бок людзей, і адхіліў зыск камунальных службаў.

### БАРАНАВІЧЫ. Мітынг супраць збяднення

**Баранавіцкі прадпрымальнік і грамадскі актывіст Мікола Чарнавус падаў у мясцовы гарвыканкам новую заяўку на мітынг, які запланаваны на 21 сакавіка з 12 да 13 гадзін.**

Мэта мітынгу: «Не — збядненню народа!». Мікола Чарнавус пагаджаецца на месца, дазволенае ўладамі: стары гарадскі парк або любое іншае, якое прапануюць улады. На мітынг актывіст заклікае ўсіх, хто не задаволены цяперашнім жыццём.

На мітынгу плануецца давесці да ведама незадаволенасць разваламі эканомікі, адсутнасцю эканамічных рэформ, бездапаможнасцю ўладаў у выпраўленні сітуацыі. На мерапрыемстве плануецца выкарыстанне плакатаў: «Прэзідэнта РБ прызнаць дублёрам да новых выбараў», «Хабар лічыць здрадай Радзіме», «Нас чакае галадамор!».

На думку Чарнавуса, уладам трэба пайсці насустрач жаданню народа не толькі ў дазволе мерапрыемства, але і ў стасаванні з людзьмі.

### ГОМЕЛЬ. Чаргова пратакол на журналістку

**У дачыненні да журналіста-фрылансера Ларысы Шчыраковай складзены чаргова пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.**

Пратакол склаў участковы інспектар Гомельскага РАУС Дзмітрый Чан. Журналістку традыцыйна абвінавачваюць па арт. 22.9 КаАП РБ «Незаконны выраб прадукцыі СМІ». Матэрыял «Барысаўская трагедыя можа паўтарыцца ў Гомелі», які, нібыта, незаконна вырабіла журналістка, датычыўся жыхароў некалькіх новабудоўляў у пасёлку Бальшавік, якія скардзіліся на рэгулярны пах газу ў сувязі з неналежным выкананнем будаўнічых работ.

«Я, шчыра кажучы, пасля спынення двух аналагічных працэсаў супраць мяне ўжо падумала, што здаровы сэнс перамог, і журналістаў-фрылансераў больш не будуць пераследаваць, — каментуе Ларыса Шчыракова, — але, відаць, паслабленне хваткі было тактычным крокам уладаў. Тым не менш мяне вельмі радуе, што мая праца мае канкрэтны вынік і рэальна дапамагае людзям вырашаць іх праблемы. Пасля публікацыі матэрыялу аб праблемах жыхароў пасёлка Бальшавік з угарным газам, газавая служба ліквідавала ўсе непаладкі. Такім чынам, дзякуючы адной публікацыі вырашылася праблема, з якой жыхары некалькі гадоў безвынікова звярталіся ў розныя інстанцыі».

**Паводле spring96.org**

# Забароненыя для жанчын прафесіі

**Для беларускіх жанчын існуе шэраг бар'ераў, якія не дазваляюць ім мець права выбару пэўных прафесій і сфер дзейнасці.**

Напрыклад, у Ваенную акадэмію на працягу пяці гадоў наогул не набіралі жанчын. У гэтым годзе, згодна з папярэднімі планамі, збіраюцца набраць 12 дзяўчат.

Падобная сітуацыя і ў Акадэміі МУС, у прэс-службе якой паведамілі, што на гэты год квоты для дзяўчат яшчэ не вызначаны, але па-ранейшаму конкурс будзе асобным для жанчын і мужчын. Абмежаванне набору жанчын на тую ці іншую спецыяльнасць па прыкмеце квоты пола з'яўляецца відавочнай дыскрымінацыяй жанчын у сферы адукацыі, лічыць каардынатар праекта «Гендэрны маршрут» Ірына Саламаціна.

У Беларусі да гэтага часу карыстаюцца спісам забароненых для жанчын прафесій, складзеным яшчэ ў 1932 годзе. Апошні раз спіс пераглядаўся ў 2014 годзе — былі знятыя абмежаванні на прымяненне працы жанчын на шэрагу работ у горназдабыўной прамысловасці.

Па факце ж беларускім жанчынам забаронена займацца 252 відамі дзейнасці. Нежаночымі лічацца прафесіі дрывасека, трактарыста, вадалаза, кіроўцы міжгародных пасажырскіх аўтобусаў, дальнабойніка і многіх іншых.

«Спіс забароненых прафесій — гэта відавочная дыскрымінацыя па прыкмеце полу. Сучасны падыход — не абмежаванне ў праве працаваць на той ці іншай вытворчасці, а стварэнне сістэмы аховы працы на рабочых месцах, мінімізацыя рызык для мужчын і жанчын. Мужчыны і жанчыны павінны мець выбар — займацца той ці іншай працай. Акрамя таго, калі мы гаворым аб гендэрнай роўнасці, чаму дзяржава не зацікаўленая ў захаванні здароўя мужчын?» — задаецца пытаннем эксперт.

У Беларусі дыскрымінацыя па прыкмеце полу структурная, то бок, на ўзроўні дзяржавы, упэўненая Ірына Саламаціна:

«Пры досыць гендэрна нейтральным заканадаўстве ў краіне няма сістэмы, пры якой жанчыны могуць абараніць свае правы. Прафесійных сервісаў для гэтай групы насельніцтва ў краіне няма. Жанчыны ў цэлым зараз знаходзяцца ў большасці сваёй у складанай сітуацыі, бо ў краіне зніжаецца ўзровень жыцця, адбываюцца скарачэнні працоўных месцаў. Многія жанчыны баяцца застацца без сродкаў да існавання. А партыі і розныя арганізацыі не становяцца праваднікамі жаночай позвы».

Пераважна жаночымі ў Беларусі з'яўляюцца ахова здароўя, сфера сацыяльных паслуг, адукацыя, гандаль, гасцінічны бізнес і грамадскае харчаванне.

**Паводле Naviny.by**

# Рашэнне суда выканалі пасля скаргі

Марыя ВЕРАС

**Толькі праз 7 месяцаў пасля вынясення рашэння судом Слуцкага раёна Зінаіда Цімошак здолела атрымаць кампенсацыю матэрыяльных страт ад «Мінскаблдарбуд» за пашкоджанне аўтамабіля на аварыйнай дарозе.**

Паскорыць працу судовых выканаўцаў дапамагла скарга ва ўпраўленне прымусовага выканання галоўнага ўпраўлення юстыцыі Мінгарвыканкама.

«Высветлілася, што выйграць суд — гэта не самае галоўнае, — распавяла грамадская актывістка Зінаіда Цімошак. — Яшчэ трэба дабіцца выканання рашэння суда. Пасля таго, як 27 кастрычніка 2015 года вызначэннем Мінскага абласнога суда ўступіла ў сілу рашэнне суда Слуцкага раёна ад 9 жніўня 2015 года аб выплаце мне кампенсацыі «Мінскаблдарбудам» за пашкоджанне аўтамабіля, судовая справа была перададзена для выканання ў аддзел прымусовага выканання Цэнтральнага раёна горада Мінска. Спачатку я нават узрадавалася, паколькі думала, што сталічныя судовыя выканаўцы больш прафесійныя і хутка выканаюць рашэнне суда. Аднак прайшло некалькі месяцаў, а справа так і не зрушылася».

Па словах Цімошак, толькі праз 2 месяцы была заведзена справа аб узбуджэнні выканаўчай вытворчасці. Пры гэтым пісьмовае пацвярджэнне аб заведзенні справы аб прымусовым выкананні жанчына атрымала толькі пасля скаргі ў вышэйстаячую інстанцыю.

Прычыну марудната выканання прысуду судовы выканаўца патлумачыла адсутнасцю грошай у рамонтна-будаўнічай арганізацыі на выплату судовых даўгоў. Аднак пасля выхаду нататкі ў НЧ і непрыемных размоў з кіраўніком аддзела Цэнтральнага аддзелу прымусовых выкананняў горада Мінска, пасля бляганіны з адрасам і арганізацыямі, 4 лютага Зінаідзе Цімошак усё ж была выплачана палова сумы. Дарэчы, ужо добра з'едзенай інфляцыяй. І хаця суд Слуцкага раёна правёў аж два пасяджэнні, на якіх сума выплат была праіндэксаваная, Цімошак лічыць, што гэта індэксацыя смеху вартая. «У жніўні 2015 года, калі я выйграла суд, 1 долар каштаваў 14300 беларускіх рублёў. Цяпер — амаль 21 тысячу, — тлумачыць Зінаіда. — Індэксацыя не пакрывае гэты рост. І зрабіць рамонт машыны за выплачаныя грошы будзе немагчыма».

З-за маруднасці працы судовай сістэмы і перманентных беларускіх крызісаў судовыя справы з кампенсацыямі матэрыяльных стратаў страчваюць сэнс.

«Пасля звароту ва ўпраўленне прымусовага выканання галоўнага ўпраўлення юстыцыі Мінгарвыканкама, мая справа была вырашана даволі хутка. Былі прыпынены 28 грашовых разлікаў «Мінскаблдарбуд», і я адразу ж атрымала мноства пісьмовых паведамленняў аб руху справы з аддзела прымусовага выканання Цэнтральнага раёна. А 4 сакавіка нарэшце была выплачана і другая палова сумы», — паведаміла Зінаіда Цімошак.

# Адзіны спіс патрыётаў

**Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны заклікае беларускіх патрыётаў, якія хочуць захаваць нашу незалежнасць, прыняць актыўны ўдзел у сёлетняй парламенцкай кампаніі.**

З гэтай нагоды Рада ТБМ прыняла адпаведны зварот. «Мы лічым, што на працягу бліжэйшых месяцаў можна стварыць групу асобаў, якія згодныя вылучыцца ў якасці кандыдатаў на сёлетніх парламенцкіх выбарах з мэтай змяніць моўную сітуацыю ў нашай краіне на карысць роднай беларускай мовы, — гаворыцца ў звароце, падпісаным Алегам Трусавым і Аленай Анісім. — Мы прапануем скласці адзіны парламенцкі спіс кандыдатаў у дэпутаты пад агульным лозунгам «Беларускую мову — у беларускі парламент!». Пры гэтым асобы, якія пажадаюць увайсці ў гэты спіс, будуць праводзіць усю кампанію па-беларуску ад самага пачатку да канца. У гэты спіс могуць увайсці любыя грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія падзяляюць вышэйзгаданыя прынцыпы і здольныя аб'яднаць вакол сябе ад 10 да 15 сяброў і прыхільнікаў. Маючы групу аднадумцаў, яны могуць з пачатку выбарчай кампаніі збіраць тысячу подпісаў у той акрузе, дзе яны вылучаюцца. На сёння мы маем 110 акруг, такім чынам, памнажаем на 15 і маем некалькі тысяч людзей, якія некалькі месяцаў гавораць па-беларуску і прыцягваюць увагу выбаршчыкаў. Гэты і будзе тое рэальнае аб'яднанне апазіцыі, пра якое вядзецца гаворка ўжо гадоў 20. Бо ўвайсці ў гэты спіс могуць як сябры палітычных партый, так і цалкам незалежныя грамадзяне. Гэту ідэю падтрымала на сваім пасяджэнні Рада кангрэса за незалежнасць».

ТБМ запрашае грамадзян Беларусі да шырокага дыялогу на гэту тэму. Сваё меркаванне можна дасылаць па адрасе: 220116, г. Мінск, а/с 22.

Альбо на электронныя скрыні Siadziba@gmail.com; niezaleznasc@gmail.com.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як дапамагчы міліцыянту

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нашы праваахоўныя органы клапоцяцца пра грамадзянаў. А грамадзяне праяўляюць з імі незвычайную салідарнасць. І толькі паасобныя несвядомыя элементы не заўважаюць, што «міліцыя з народам».**



Фота www.bikepost.ru

Праца праваахоўнікаў усё больш і больш апынаецца ў цэнтры ўвагі. Яны то журналіста паб'юць, то разаб'юць шкло машыны і выцягнуць адтуль кіроўцу, то некаторыя з іх апынуцца на лаве падсудных у сувязі з распаўсюдам наркотыкаў... Зразумела, такія факты схаваць немагчыма.

У гэтай сувязі міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч у нечым павінен быў апраўдвацца за сваіх падначаленых. Але вельмі дзіўным чынам ён гэта зрабіў. З аднаго боку, ён сказаў: «Міліцыянер не можа ісці за сваімі пачуццямі і адказваць хамствам на хамства. Міліцыянер не можа сваё ўнутранае, суб'ектыўнае стаўленне перакладаць на тую працу, якую ён робіць, і на таго аб'екта, на якога накіравана гэта праца. Правапарушальнік гэта або законапаслухмяны грамадзянін».

З іншага боку, па ягоных словах, некаторыя СМІ развязалі супраць міліцыі «інфармацыйную вайну». «Але ёсць частка (публікацый у СМІ. — рэд.), якая, на мой погляд, з'яўляецца не чым іншым, як інфармацыйнай атакай на дзейнасць такой структуры, як Міністэрства ўнутраных спраў. Я ацэньваю гэта так. Гэта інфармацыйная вайна, якая вядзецца ў дачыненні да Міністэрства ўнутраных спраў з усімі вынікаючымі наступствамі: два супрацьстаячыя бакі, набор інструментару», — сказаў міністр.

Заява дзіўная, бо СМІ — гэта люстэрка. Збілі журналіста tut.by Паўла Дабравольскага — прафесійная супольнасць журналістаў адрэагавала адпаведным чынам. У Віцебску міліцыянт выцягнуў падлетка з-пад колаў машыны коштам таго, што машына збіла яго самога, — і гэта таксама шырока абмяркоўвалася.

Можна было б казаць пра вайну, калі б «нячэсаныя журналісты» малявалі міліцыю чорнымі фарбамі. Але ж непрафесійную працу супрацоўнікаў МУС заўважаюць усе, незалежна ад падзелу на «чэсных» і «нячэсаных». Хіба не адразу пасля заявы Шуневіча пра «інфармацыйную вайну» спартыўны каментатар Сяргей Новікаў на канале «Беларусь 5» звярнуўся са скаргай да кіраўніка МУС на дзеянні міліцыянтаў на гандбольнай сустрэчы ў Брэсце паміж БГК імя Мяшкова і клубам «Скьерн» з Даніі. Па словах заўзятараў, на ўваходзе ў спорткомплекс «Вікторыя», дзе праводзілася гульня гандбалістаў, міліцыянты зацягнулі дагляд на 50 хвілін, з-за чаго амаль траціна гледачоў спазніліся на пачатак матчу. Тэлекаментатар у эфіры распавёў аб аналагічным выпадку з уласнага доследу. «Інакш, як ганьбай пачутае не назавеш», — мяркуе журналіст, які звярнуўся да міністра ўнутраных спраў з заклікам разабрацца ў канфлікце і распрацаваць меры бяспекі, якія задаволяць усе бакі.

Так што міліцыі трэба падумаць над сваімі паводзінамі. А чым можа дапамагчы грамадства? Дапамога атрымалася нечаканай.

У Гродне каталікі 4 сакавіка адзначалі літургічны ўспамін святога Казіміра, каралевіча, сына польскага караля Казіміра Ягелончыка і каралевы Альжбеты, нябеснага апекуна Гродзенскай дыяцэзіі. Святочную Імшу пры алтары святога Казіміра ў катэдральным касцёле святога Францішка Ксаверыя ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Біскуп заклікаў асабліва памаліцца аб беларускай міліцыі, якая святкавала ў гэты дзень сваё прафесійнае свята, просячы ў Бога, каб міліцэйскія службы «выконвалі штодзённыя абавязкі з вялікай адданасцю, служачы чалавеку і несучы бяспеку і дапамогу», паведамляе catholic.by.

Благачынны Смаргонскай акругі протаіерэй Анатоль Разановіч 4 сакавіка ўзяў удзел ва ўрачыстасцях з нагоды Дня міліцыі. Святар нагадаў пра складанасць эпохі, у якой даводзіцца служыць супрацоўнікам міліцыі: «Сёння патаптаныя ўсе запаведзі Божыя», і заклікаў нястомна прасіць заступніцтва Божай Маці.

У Расонах 3 сакавіка ў раённым Цэнтры культуры і народнай творчасці госцем урачыстага мерапрыемства, прысвечанага Дню міліцыі, стаў настаяцель праваслаўнага храма Узнясення Гасподняга протаіерэй Аляксандр Гардзевіч, які падзякаваў у сваім выступе супрацоўнікам міліцыі за іх службу, нагадаўшы, што служыць яны закліканыя не толькі людзям, але і Богу, таму «гэтая служба павінная быць бездакорнай». Святар уручыў начальніку РАУС Біблію і невялікія абразы для кожнага работніка аддзела, паведамляе eparhia992.by.

Беларусы ўвогуле — шчырыя і чулыя людзі. У сувязі з прысудам украінскай лётчыцы Надзеі Саўчанка беларусы два разы пікетавалі расійскае пасольства. Удзельнікі акцыі трымалі плакаты: «Путлера ў Нюрнберг», «Расія — гэта вайна», «Героям слава». «Сітуацыя вакол Саўчанка павінна ўсіх хваляваць. Пуцін паводзіць сябе, парушаючы ўсе законы. Саўчанка — гераіня Украіны. Наш прыход сюды — гэта падтрымка Надзеі Саўчанка і Украіны», — мяркуе Вячаслаў Сіўчык.

Беларусы апынуліся ў пазітыўным еўрапейскім трэндзе. А расійскія вышэйшыя службовыя асобы — пад пагрозай санкцый. Дэпутаты Еўрапарламента заклікалі вярхоўнага прадстаўніка ЕС па замежных справах Федэрыка Магерыні ўвесці персанальныя санкцыі супраць прэзідэнта РФ Уладзіміра Пуціна і яшчэ 28 расійскіх чыноўнікаў за «незаконнае абыходжанне з украінскай грамадзянкай Надзеяй Саўчанка».

Ліст-зварот, які падпісаны 57 еўрадэпутатамі, размясціў у сваім Твітары польскі еўрадэпутат Яцэк Сарыюш-Вольскі. Акрамя Пуціна ў спісе — дырэктар ФСБ Аляксандр Бортнікаў, кіраўнік Следчага камітэта Аляксандр Бастрыкін, кіраўнік камітэта Дзярждумы па міжнародных справах Аляксей Пушкоў, верхавод так званай «ЛНР» Ігар Платніцкі, а таксама пракуроры і суддзі, якія ўдзельнічалі ў працэсе Саўчанка.

Санкцыі будуць прадугледжваць забарону на выдачу віз у ЕС, замарожванне актываў названых асоб у краінах ЕС і канфіскацыю іх маёмасці на тэрыторыі Еўрасаюза. То бок тое, што зусім нядаўна знялі з Беларусі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Святлана Алексіевіч

**Беларуская Нобелеўская лаўрэатка падпісала адкрыты ліст да еўрапейскіх лідараў з заклікам вызваліць украінскую лётчыцу Надзею Саўчанка.**

Разам з Алексіевіч ліст падпісалі больш за 270 выбітных дзеячаў — лаўрэаты Нобелеўскай прэміі, пісьменнікі, навукоўцы, палітыкі, грамадскія дзеячы, філосафы, мастакі, якія прадстаўляюць па меншай меры 20 краін свету.

Яны заклікалі еўрапейскіх лідараў «прыняць надзвычайныя меры з мэтай неадкладнага і безумоўнага вызвалення 34-гадовай Надзеі Саўчанка, грамадзянкі Украіны, выкрадзенай і змешчанай у турму на 20 месяцаў у Расійскай Федэрацыі» і прыйшлі да высновы, што «наша здольнасць выратаваць яе жыццё будзе праверкай эфектыўнасці міжнароднай дыпламатыі і нашай адданасці еўрапейскім каштоўнасцям».



## Стаўрас Ламбрынідзіс

**Упершыню ў Беларусь прыехаў спецпрадстаўнік Еўрапейскага Саюза па правах чалавека.**

Як паведамляе МЗС Беларусі, візіт Стаўраса Ламбрынідзіса «арганізуецца ўпершыню ў мэтах садзейнічання далейшаму развіццю дыялогу па правах чалавека паміж Беларуссю і Еўрасаюзам, які быў аднаўлены ў ліпені 2015 года». Але заняты высокі госць будзе не толькі дыялогам.

У ходзе візіту Ламбрынідзіс сустрэнецца з прадстаўнікамі беларускіх уладаў, палітычных партый, грамадзянскай супольнасці і праваабаронцамі. Спецпрадстаўнік ЕС прыме ўдзел у міжнароднай канферэнцыі па праблеме смяротнага пакарання. Удзельнікамі канферэнцыі таксама стануць спецдакладчык Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы па сітуацыі ў Беларусі Андрэа Рыгоні, старшыня камітэта па замежных справах Палаты дэпутатаў Чэхіі Карэл Шварцэнберг, амбасадар Вялікабрытаніі ў Беларусі Фіёна Гіб, прадстаўнік ПРААН у Беларусі Санака Самарасінха і шэраг замежных экспертаў.

Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе да гэтага часу ўжываецца смяротнае пакаранне. Па гэтай прычыне Беларусь таксама з'яўляецца адзінай еўрапейскай краінай, якая не ўваходзіць у Савет Еўропы.

## Віталь Гуркоў

**У беларускіх СМІ выйшла блытаніна наконт таго, як называць славутага спартсмена.**



Справа ў тым, што Віталь Гуркоў стаў чэмпіёнам Беларусі па муай-тай. Аднак, у той жа час ён з'яўляецца адным з вакалістаў гурта Сяргея Міхалка «Brutto».

Таму ў прэсе з'явіліся загалоўкі: «Вакаліст «Brutto» стаў новым чэмпіёнам Беларусі па муай-тай».

У фінале першынства, якое прайшло 5 сакавіка ў Мінску, Гуркоў упэўнена перамог Кірылу Марчанку, які ў свой час быў чэмпіёнам свету па муай-тай сярод юніёраў. Такім чынам, спартсмен павінен увайсці ў склад нацыянальнай зборнай па муай-тай, якая ў маі выправіцца на планетарны форум у Швецыю.

Вяртанне Гуркова ў спорт стала для ўсіх сур'ёзным сюрпрызам. Лічылася, што заслужаны майстар спорту і шматразовы чэмпіён свету канчаткова сышоў у музыку. Але гэтага не здарылася.

Не паспеў Гуркоў заявіцца на чэмпіянат Беларусі, як з усяго свету да яго пайшлі прапановы аб прафесійных баях на прэстыжных турнірах. Як знакаміты спартсмен і папулярны музыка будзе сумяшчаць спорт і гастролі, пакуль не вядома.

Муай-тай — баявое мастацтва Тайланда. У перакладзе «муай-тай» азначае «паядынак свабодных», «свабодны бой». У муай-тай можна наносіць удары кулакамі, ступнямі, галёнкамі, локцямі і каленамі. З-за гэтага муай-тай таксама часта называюць «боем васьмі канечнасцяў».



# Міхаіл Пастухоў: Цар Беларусі не патрэбны

Сяргей ПУЛЬША

**Беларускай Канстытуцыі 15 сакавіка спаўняецца 22 гады. І за гэты час яна шмат у чым састарэла. Напрыклад, у краіне ліквідаваныя гаспадарчыя суды, а ў Канстытуцыі яны прапісаныя дагэтуль. Ці трэба краіне новая Канстытуцыя, якой яна павінна быць? Пра гэта НЧ пагутарыў з экс-суддзёй Канстытуцыйнага суда, адным з аўтараў Канстытуцыі 1994 года Міхаілам Пастуховым.**

## Тры шляхі рэформаў

Існуе тры варыянты змянення Канстытуцыі. Першы — гэта ўносіць праўкі ў дзеючы Асноўны закон. «Але дзеючая Канстытуцыя была ўведзеная пасля рэферэндуму ў лістападзе 1996 года насуперак рашэнню Канстытуцыйнага суда аб дарадчым характары пытанняў рэферэндуму, што да змен у Канстытуцыю. З фактычным парушэннем закона. Таму як юрыст, як суддзя Канстытуцыйнага суда, я магу сцвярджаць, што гэтая рэдакцыя Канстытуцыі не мае легітымнага характару», — кажа Пастухоў. Адпаведна, змены ў яе таксама будуць насіць сумнеўны характар з пункту погляду легітымнасці.

Другі варыянт — напісанне новай Канстытуцыі. «Але яе трэба распрацаваць, а гэта — працэс доўгі і цяжкі. Распрацоўка Канстытуцыі 1994 года вялася амаль чатыры гады — ажно ад 1990 года, калі была прынятая Дэкларацыя аб суверэнітэце Беларусі», — заўважае Пастухоў.

Трэці варыянт — вяртанне да Канстытуцыі 1994 года, і ўжо ў яе ўносіць змены і дапаўненні. «Гэта найбольш апраўдана з пункту гледжання закона. Змены і дапаўненні ў яе павінны ўносіцца ва ўстаноўленым законам парадку, праз дэмакратычна абраны парламент і праз правядзенне рэферэндуму. Калі мы жадаем узнавіць у краіне канстытуцыйную законнасць, трэба пачаць з аднаўлення незаконна адрынутай Канстытуцыі 1994 года. Гэты варыянт — найбольш прымальны», — лічыць эксперт.

«Мне падаецца, што Канстытуцыя 1994 года ў дастатковай ступені адлюстроўвае нацыянальныя асаблівасці Беларусі, гістарычны шлях развіцця, яна ўспрыняла гістарычныя сімвалы, зацвердзіла беларускую мову як адзіную дзяржаўную, адлюстравала традыцыі і менталітэт беларускага народа, слушна вызначыла прыярытэты развіцця. Таму я за тое, каб узнавіць дзеянне Асноўнага закона 1994 года на новым гістарычным этапе», — кажа Пастухоў.

## Асноўны закон павінен дзейнічаць

Самае галоўнае, што трэба зрабіць з Канстытуцыяй, — гэта ўвесці яе абавязковае дзеянне. «Канстытуцыя павінна быць законам наўпроставага дзеяння, і ўсе палажэнні, якія ў ёй прапісаныя, павінны быць не дэкларацыямі, а рэальна дзеючымі нормамі. Якія, у сваю чаргу, павінны ажыццяўляцца праз так званае «бягучае заканадаўства», — кажа юрыст.

Зараз Канстытуцыя не мае наўпроставага дзеяння. І таму, калі яе палажэнні ўступаюць у супярэчлівасць з дэкрэтамі, указамі і іншымі законамі, дзейнічае зусім не Канстытуцыя. А павінна быць наадварот.

## Без прэзідэнта

На думку Пастухова, з новай Канстытуцыі аднназначна павінна быць выкраслена пасада прэзідэнта. «Практыка паказала, што адзінаасобная ўлада ў краіне сябе вычарпала. Яна ў прынцыпе не дапушчальная і супярэчыць асноўным прынцыпам дзяржаўнага ладу, прынцыпу падзелу галінаў улады, вяршэнства Канстытуцыі і законаў, павагі правоў чалавека. Таму, на маю думку, трэба вярнуцца да парламенцкай формы дэмакратыі», — лічыць Пастухоў.

Акрамя ліквідацыі «адзінаўладдзя» такая рэформа дасць шмат выгодаў для бюджэту. «У гэтай мадэлі старшыня парламента выконвае функцыю кіраўніка дзяржавы. Прычым, ён выконвае яе фактычна на грамадскіх пачатках. І ўвесь абслугоўваючы апарат, усе службы, якія створаныя пры кіраўніку дзяржавы, уласна кажучы, не патрэбныя для нармальнага развіцця дзяржавы і грамадства», — падкрэслівае юрыст.

Ён прызнае, што пытанне гэта няпростае, патрабуе ўсенароднага абмеркавання, і, можа быць, рэферэндуму. «Але ўсё ж ці патрэбная невялікай Беларусі такая пасада, калі яго функцыі на грамадскіх пачатках, проста па сумяшчальніцтву, можа выконваць старшыня парламента?» — задаецца пытаннем Пастухоў.

## Аднапалатны парламент

Другая рэформа, якую прапануе Пастухоў, — аднаўленне аднапалатнага парламента. «Відавочна, што другая палата парламента — Савет рэспублікі, — не патрэбная. Мадэль двухпалатнага парламента сябе не апраўдала. Я не бачу вынікаў яе дзейнасці. У нас быў аднапалатны парламент, ён быў незаконна распушчаны, і я лічу, што ёсць усе прававыя падставы, каб узнавіць яго дзейнасць», — лічыць былы суддзя Канстытуцыйнага суда.



**У сакавіцкія дні 1994 года актыўна ішла дапрацоўка першай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якую прынялі 15 сакавіка за подпісам тагачаснага старшыні Вярхоўнага Савета 12 склікання Мечыслава Грыба. Калі б у сакавіку 1994 года інстытут прэзідэнцтва не ўвялі, Беларусь засталася б парламенцкай рэспублікай, як Італія ці Германія**

## Урад: прафесійны і выбарны

«У нас у краіне фактычна няма ўрада, — заўважае Пастухоў. — Тое, што ёсць, — гэта нейкі філіял, прыдатак Адміністрацыі прэзідэнта, на які спрабуюць спіхнуць усю адказнасць за правалы ў развіцці эканомікі краіны. Усім ужо зразумела, што кіруе краінай не ўрад, а адна асоба. І ўрад пад назвай «Савет міністраў» проста не выконвае свае функцыі, бо ён несамастойны».

А краіне патрэбны самастойны кампетэнтны і адказны ўрад. На думку Пастухова, гэты ўрад павінен абірацца парламентам, несці перад ім адказнасць. І дзейнічаць урад павінен згодна з праграмай эканамічнага развіцця, якую зацвярджае парламент па прапанове ўрада.

«Гэта павінен быць мабільны, прафесійны ўрад, які ведае, як вывесці краіну з працяглага эканамічнага крызісу», — дадае Пастухоў.

## Судовая незалежнасць

Выбарнымі павінны быць і суддзі. «Зараз усім зразумела, што ў Беларусі няма незалежнай судовай улады. Суддзі — гэта чыноўнікі, якія прызначаюцца кіраўніком дзяржавы і абслугоўваюць інтарэсы выканаўчай улады. Таму што амаль напоўніцу ад яе залежаць — у фінансавым, матэрыяльным плане, і нават кар'ерным: у плане прызначэння на пасаду і прасоўвання па гэтай пасадзе», — зазначае ён.

Па меркаванні Пастухова, парламент павінен абіраць на альтэрнатыўнай аснове суддзяў вышэйшых судоў, а суддзі ніжэйшых узроўняў — раённых і абласных, — павінны абірацца мясцовымі саветамі дэпутатаў з кандыдатур, вылучаных прафесійнай супольнасцю. «Трэба ўзнавіць пасаду суддзі як аўтарытэтную і паважаную пасаду. На яе трэба абіраць найбольш вартых таго юрыстаў», — адзначае ён.

Больш за тое, Пастухоў лічыць, што і на іншыя пасады такога кшталту — органаў МУС, пракуратуры, дзяржаўнай бяспекі, следчых органаў, — людзі павінны абірацца шляхам конкурснага адбору. А парламент павінен толькі «дабраслаўляць» такія прызначэнні на ключавыя пасады ў дзяржапараце.

Каб такія абранні сталі магчымымі, неабходна, як кажа Пастухоў, узнавіць у гарадах «магдэбургскае права». «З 1995 года ў нас фактычна знішчана мясцовае самакіраванне. Неабходна прыняць захады, каб узнавіць мясцовую ўладу, якая павінна фармавацца насельніцтвам гэтых месцаў і не залежаць ад цэнтральнай улады. Ніякай «прэзідэнцкай вертыкалі» быць не можа па вызначэнні. Мясцовыя выканаўчыя органы павінны фармаваць мясцовыя ж Саветы дэпутатаў. Ну а кіраўнікоў гарадоў, мэраў, можна абіраць на агульных мясцовых выбарах», — зазначае эксперт.

## Складана ці проста?

Падаецца, што правак у Канстытуцыю давядзецца ўносіць шмат. Але, насамрэч, як кажа Пастухоў, каб прывесці Асноўны закон у адпаведнасць з новымі рэаліямі, выпраўляць прыйдзецца не так ужо і багата. Праўкі будуць хоць важнымі, але маленькімі. Напрыклад, што тычыцца раздзела пра прэзідэнта, напісаць: «Выключаны». У артыкуле 5-м варта напісаць, што свабода палітычных партый і аб'яднанняў дзяржавай «гарантуецца», а не што яны проста «садзейнічаюць выказванню палітычнай волі грамадзян». Артыкул 24, датычны смяротнага пакарання, складаецца з трох слоў: «Смяротная кара адменена». Сацыяльныя абавязкі дзяржавы ўдакладняюцца: яна не проста гарантуе «дастойную аплату працы», а замацоўвае, што мінімальны заробак і дапамога па беспрацоўі не могуць быць ніжэй вызначанага пражытковага мінімуму.

Пастухоў, як прыхільнік прафесійнага войска, мяркуе выключыць з Асноўнага закона «абавязак» праходжання тэрміновай вайсковай службы. Да таго ж (зноў «састарэласць» Канстытуцыі) у краіне ўжо ёсць альтэрнатыўная служба.

А замест пасады прэзідэнта Пастухоў прапануе замацаваць у Канстытуцыі інстытут упаўнаважанага Рэспублікі Беларусь па правах чалавека.

«Новую рэдакцыю Канстытуцыі 1994 года я магу прапанаваць хоць сёння», — заўважае Пастухоў. На паперы ўсе гэтыя праўкі — драбязя. Але гэтая драбязя абумоўлівае існаванне Беларусі як прававой, дэмакратычнай і суверэннай дзяржавы.

## Ці не ахлакратыя?

Ці не занадта Пастухоў прапануе выбарных пасадаў? Дзе гарантыя, што выбраны парламент будзе прафесійны, выбраны ўрад — кваліфікаваны, што выбарныя судзі — справядлівыя?

«Вы пытаецеся, як мы будзем жыць без цара, грознага і справядлівага, — смяецца Пастухоў. — Я думаю, што беларусы ўжо выраслі за дванаццаць год у сваім развіцці, яны даказалі, што могуць самі вырашаць свае праблемы. Калі парламент ім дасць свабоду, — канешне, кантралюючы выкананне законаў, — то я думаю, што беларусы за некалькі гадоў дасягнуць узроўню жыцця Еўропы».

«Для гэтага не патрэбны нейкі цар. Для гэтага патрэбныя празрыстыя правілы гульні, празрыстыя законы, якія будуць выконвацца. За два-тры гады мы можам забяспечыць такі ўзровень жыцця, як у Польшчы альбо Прыбалтыцы. А цар Беларусі не патрэбны», — упэўнены Пастухоў.

i | Я працую па размеркаванні

# Якая яна, праца маладога настаўніка

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Уладзіслаў скончыў БДПУ імя Максіма Танка. Падчас вучобы ва ўніверсітэце ён, як і ўсе студэнты, спадзяваўся пазбегнуць адпрацоўкі па размеркаванні. Лёс усё ж закінуў яго ў школу Цэнтральнага раёна Мінска.**



## Хто сказаў, што мары не здзяйсняюцца?

У дзяцінстве Уладзь хацеў пайсці па бацькавых слядах і стаць бізнесоўцам. У старэйшых класах, калі хлопец моцна зацікавіўся беларускай літаратурай і адначасова юрыспрудэнцыяй, ён захацеў паступаць на юрыста-міжнародніка. Марыў вучыцца ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце. Але ў выніку пачаў спраўджваць сваю другую мару — паступіў у Беларускі Дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт на спецыяльнасць «Беларуская мова і літаратура. Літоўская мова»: «Я пайшоў туды, нягледзячы на тое, што, мажліва, гэта не зусім прэстыжны ўніверсітэт і факультэт, — як кажуць тыя, хто там не вучыўся. Я ж лічу, што там працуюць сапраўды моцныя і прафесійныя выкладчыкі».

Уладзь ведаў, што зможа быць някепскім настаўнікам беларускай літаратуры. А вось мова яму ніколі не давалася добра. Калі па літаратуры хлопец атрымліваў вышэйшыя балы, то па мове — толькі пяцёркі ды шасцёркі. Таму не меў ілюзій: ідэальнага настаўніка беларускай мовы з яго не выйдзе.

Многія аднакурснікі на працягу вучобы клапаціліся пра сваё размеркаванне — падпрацоўвалі ў школах. Але, па словах Уладзя, ва ўніверсітэце замацавалася сістэма: калі ты нарадзіўся не ў Мінску, то табе не даюць мажлівасць працаваць у мінскіх школах.

На старэйшых курсах хлопец усё ж паступіў у ЕГУ. Другая адукацыя, хоць і дыстанцыйная, але сумяшчаць яе з першай дзённай — справа не з лёгкіх. Уладзь не паспяваў вучыцца бездакорна: прыходзілася рабіць выбар паміж галоўным і другасным. Што падабалася — ён вучыў. Астатняе прыходзілася прапускаць.

## Размеркаванне

На папярэдняе размеркаванне Уладзь прыйшоў з запытам ад фірмы, якая мае сувязь з літоўцамі. Туды яго бралі менеджэрам. Але дакумент у камісіі да ўвагі не прынялі. «Былі людзі з запытамі і з больш сур'ёзных месцаў працы, — падзяліўся Уладзь, — але ім таксама адмовілі. Для мяне гэта парадокс: відавочна, што ў школах гэтыя маладыя спецыялісты не змогуць праявіць сябе так добра, як на працы, з якой прынеслі запыты».

Камісія размяркоўвала толькі па прамой спецыяльнасці ў тыя месцы, адкуль ты паходзіш. Але, калі студэнт адвучыўся на спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура. Польская мова», то ў такім выпадку ў яго было больш шансаў размеркавацца выкладчыкам на нейкія моўныя курсы.

«Мы ж з вамі разумеем, — кажа Уладзь, — у нашых школах папросту не хапае настаўнікаў. Але вырашаць праблему нечым накшталт «абы хто трапіў» — кепскае выйсце. Многія, хоць і адвучыліся на педагогаў, але не здольныя імі быць па сваіх якасцях. Такія людзі могуць дапамагаць іншым сваімі ведамі ў тых сферах, якія з'яўляюцца блізкімі да педагогікі».

Уладзь — мінчанін, таму на размеркаванні яму далі магчымасць абраць любы раён Мінска, у якім ён хацеў бы працаваць. Хлопец абраў Цэнтральны раён, таму што той яму проста падабаецца: «Я не ведаў, што гэта за школа, колькі гадзін мне там давядзецца працаваць. Я ведаў толькі тое, што яна знаходзіцца ў Цэнтральным раёне».

## Замест школы — у лякарню

Уладзю адразу не змаглі даць класы, каб настаўнічаць. Месца настаўніка вызвалялася толькі праз тры месяцы. На гэты час хлопцу прапанавалі папрацаваць... у лякарні.

Першы ўрок для дзетак з лякарні хлопец правёў без аніякага хвалявання. Настаўнік, які курыраваў Уладзя, сказаў яму канкрэтна: «Вось вучні. Вось праграма. Вось падручнік». Адзінае, чаго баяўся нядаўні студэнт, — што яго ведаў будзе недастаткова, каб вучыць дзяцей: «Але, калі ты знаходзішся ў сітуацыі, калі менавіта зараз табе трэба быць настаўнікам, то раптам узгадваеш тое, што, падавалася, раней і не ведаў».

Зараз Уладзь працуе ў школе настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Нагрузка ў яго — паўтары стаўкі з факультатывамі і надомныя заняткі. У школе толькі два настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, таму працаваць даводзіцца сур'ёзна.

Удзень Уладзь мае па 6–7 урокаў, ды яшчэ і форткі. То бок у школе знаходзіцца па 8–9 гадзін Але, вядома, што праца настаўніка не абмяжоўваецца будынкам школы. Па прыходзе дадому Уладзя заўжды чакаюць дакументацыя, стос папер, якія трэба запоўніць, неправераныя сшыткі і яшчэ не напісаныя канспекты заўтрашніх урокаў.

## Любімыя класы, любімыя вучні...

«Ці ёсць у вас любімчыкі?» — пытаю я. «Я вам так скажу: ёсць класы, з якімі працуецца добра і з якімі працаваць падабаецца. А ёсць класы, у якіх цяжка, бо там вучацца нявыхаваныя дзеці. Скажу шчыра, трымаць дысцыпліну маладому настаўніку вельмі складана. Шмат каму хочацца перад ім вылучыцца. Некаторыя не баяцца ні кепскіх адзнак, ні заўваг...»

Але Уладзь прыдумаў сваю сістэму працы з някепскімі, але абыякавымі да прадмету вучнямі. Такім дзецям малады настаўнік кажа: «У мяне ёсць дзесяць вучняў, якія працуюць, таму няхай яны сядаюць бліжэй да мяне. Астатнія — прабачце, але пад маю ўвагу вы не патрапіце». З тымі вучнямі, якія падрыхтаваліся да ўроку, Уладзь і займаецца. «А абыякавыя, нават калі нічога не прачыталі, пачынаюць падымаць рукі. О, добра, думаю, значыць звярнулі на мяне ўвагу». І пакрысе Уладзь пачынае перасаджваць «нядаўніх абыякавых» да «працуючых».

На момант я ўявіла сябе настаўніцай, уздыхнула і выказалася: «Ад такой працы мусяць існаваць сродкі-антыдэпрэсанты... Падзеліцеся рэцэптам?» «Дэпрэсія — гэта не пра мяне, — катэгарычна заявіў Уладзь. — Я займаюся спортам. Нават калі я адпачываю, усё адно думаю, як правесці ўрок так, каб вучням не было сумна. Безумоўна, ёсць не вельмі добрыя вучні, якія мяне жахліва стамляюць... Але яны таксама мяне выхоўваюць».

## Як ставяцца да беларускай мовы?

Уладзь не падтрымлівае пазіцыю многіх настаўнікаў беларускай мовы, якія размаўляюць па-беларуску толькі на ўроках. Хлопец карыстаецца роднай мовай як з дзецьмі, так і з калегамі. Школьнікі гэта ацанілі, бо сказалі Уладзю: «Мы ўпершыню бачым настаўніка беларускай мовы, які і па-за ўрокамі размаўляе па-беларуску».

Некаторыя вучні неспрыяльна ставяцца менавіта да ўрока, а не да мовы, тлумачыць Уладзь. Бывае, канешне, кажуць: «А давайце па-руску». Але Уладзь пачынае пераконваць школьнікаў, што мова ў нас някепская. Палітыкі на ўроках хлопец пазбягае адмыслова: «На маіх уроках з памежных дысцыплін мы маем толькі гісторыю. Палітыка — гэта тое, што разбурае і ўносіць пахабнасць у педагогіку. Вучоба павінна быць вышэй за палітыку».

«Які ж заробак у сучаснага маладога настаўніка?» — маё пытанне паставіла Уладзя ў няпростае становішча. Наўпрост падлічыць уласны заробак для яго аказалася не так ужо і проста: «Апошні мой заробак — 6.150.000. Але гэта за тры тыдні працы па 30 гадзін плюс месяц працы менш за стаўку ў лякарні. Па факце, гэта заробак амаль за два месяцы».

Грошы ў хлопца ідуць на ежу, транспарт, вопратку. «Часам па выходных падпрацоўваю, таму што так званых «школьных» грошай мне не хапае. На адну голую стаўку пражыць немагчыма, калі не дапамагаюць бацькі і калі няма падзаробку», — прызнаўся Уладзіслаў.

## Што душыць?

Я памятаю, як пакутавала ў школе праз тое, што ў нас пастаянна мяняліся настаўнікі па маім любімым прадмеце — гісторыі. Маладыя спецыялісты пасля двух гадоў адпрацоўкі сыходзілі, пакідаючы пасля сябе разбітыя сэрцы прывязаных да іх вучняў і недапісаныя з імі навуковыя працы. Тады я не разумела, чаму яны сыходзяць. Бачна ж было, што ім падабалася вучыць. Цяпер я разумею, што маладога настаўніка, апроч мінімальнага заробку, моцна душаць розныя паперкі і ўсялякія праверкі. Акрамя праблемы недахопу настаўнікаў у школе існуе яшчэ і праблема вялікіх класаў, бо 30 чалавек у адным класе — гэта шмат. Цяжка, калі такія класы ідуць канвеерам. Такі рэжым вельмі стамляе, асабліва дзяўчат, кажа Уладзь.

Бывае, што ў школах душыць сам калектыў. Але майму герою пашанцавала з калегамі: «Я шмат чуў пра кепскія калектывы, але ў нашай школе ён сапраўды добры. Усім нам прыходзіцца навучаць у досыць складаных умовах. Але я заўжды магу разлічваць на дапамогу сваіх калег».



Ці будзе Уладзь працягваць працу ў школе па заканчэнні адпрацоўкі? Ён адказаў так: «Мне складана думаць пра будучыню, бо існуе шмат сфер, у якіх я магу развівацца. Але мне вельмі падабаецца менавіта выкладаць. І калі пасля адпрацоўкі я знайду сабе іншую працу, то з радасцю панастаўнічаю, так бы мовіць, для душы, на палову стаўкі», — кажа ён.

Наперадзе ў маладога спецыяліста яшчэ амаль паўтара года працы ў школе. Пасля яго адпрацоўкі прышлюць новую «ахвяру» з ліку нядаўніх студэнтаў. І невядома, што і каго больш стамляе: канвеер класаў — настаўнікаў, ці канвеер настаўнікаў — вучняў...

# Данецкі трохкутнік:



Зміцер ГАЛКО

**Хата ў пасёлку Вадзяное, што знаходзіцца ў «Данецкім трохкутніку». Драўляныя вароты з паўсцёртым надпісам мелам «Жывуць дзеці».**

Калі бачыш у данбаскіх вёсках прыфрантавой паласы хаты з такім надпісам, гэта выклікае змешаныя пачуцці. Радасць ад таго, што жыццё тут не скончылася — у яго ёсць будучыня, змешваецца з трывогай за маленькіх закладнікаў вайны.

Акрамя надпісу, на варотах зблізу бачныя прабоіны. Прабоіны невялікія, з дарогі ледзь заўважныя, але для дзевяцігадовай дзяўчынкі Насці Гасанавай гэта сляды страшнай трагедыі. Меткі смерці, што забрала ў яе маму Лізу і дзядзьку Віцю, які клапаціўся пра яе нібы родны бацька. Самога бацькі дзяўчынка амаль не ведала: ён памёр, калі ёй было ўсяго два гады.

### «Па́дайце і каціцеся!»

18 ліпеня мінулага года Вадзяное было абстралянае з гаўбіц, мінамётаў і танкаў. Пару радкоў у навінах, кароткая інфармацыя аб адным загінулым і некалькіх параненых жыхарах. Руціна вайны.

Падчас таго абстрэлу і забіла дзядзьку Віцю, які спрабаваў абараніць Насцю з яе мамай. Бабуля Насці, Вольга Уладзіміраўна, распавяла, як гэта адбылося.

— Яны вярталіся ўтрох дадому з прагулкі. Усяго некалькі метраў не дайшлі да брамы, як на нашу вуліцу прыляцелі чатыры міны — адна за адной. Пасля першай усё было ў дыме. Ліза потым казала, што яе аглушыла, яна быццам здранцвела ўся, не магла ні паварушыцца, ні закрычаць. Хлопец, Віцька гэты, іх выратаваў. Закрычаў: «Падайце і каціцеся!» Яны ўпалі, пакаціліся з дарогі да брамы. Калі падкаціліся, Віця крычыць ім: «Уставайце!» Усталі, а тут чацвёртая прыляцела, ён толькі рукі паспеў падняць, раставіў, каб іх абараніць...

На выгляд раненне было не надта сур'ёзным, асколак трапіў Віцю ў нагу. Але гэтым асколкам мужчыну перабіла пахвінную артэрыю, ён памёр праз сем хвілін ад страты крыві.

Віця, Віктар Бранзовіч, мужчына 29 гадоў, родам з Закарпацця, прыехаў яшчэ да вайны ў Данецк на заробкі. Будаваў элітнае жыллё ў ваколіцах горада. У сям'ю да Лізы, Насці, Вольгі Уладзіміраўны і тады яшчэ жывога яе мужа (дзед Насці пазней патоне ў сажалцы, дзе пастаянна рыбачыў) Віктар пачаў прыходзіць з зімы мінулага года, калі транспартныя зносіны з Данецкам былі спыненыя.



Насця і Бася, улюбёны кот яе мамы




Надпіс на плоце: «Жывуць дзеці»

— Калі ідуць ваенныя дзеянні, заўсёды дзе-небудзь што-небудзь пераб'е, абарвецца. Мы яго аднойчы папрасілі драты абарваныя паправіць, у яго лесвіца вялікая была. Ён потым спытаў, ці можна па вадзіцу хадзіць — ну, можна, вядома. Раз прыйшоў, іншы. Вадзіцы набраць, гарбаты папіць. І неяк прыжыўся ў сям'і, стаў нашым сябрам. Бывала, сядзем мы сям'ёй за стол, муж мой нябожчык спытае: нешта Віці даўно не было? Глядзім, ідзе. Сядаем есці, а Віця: «Ды я не хачу, я не буду». Сціплы вельмі быў...

Вольга Уладзіміраўна падкрэслівае, што Віктар быў ім толькі сябрам. У яго ў Данецку была сям'я, засталася дачка чатырох гадоў, таксама Насця. Ён сумаваў па сям'і, але паехаць у Данецк не мог, таму ўзяўся клапаціцца пра іх.

— Мы ж дзесяць месяцаў пенсію наогул не атрымлівалі. Дык Віця нам вельмі дапамог. Папросіць што-небудзь у ваенных — і нам нясе. Я пытаюся: «А сам ты як?». Ён мне заўсёды адказваў: «Нічого, у мене є. Це вам, це для Насті». Абараняў яе заўсёды, калі мама раптам сварылася. Казаў: «Не треба сварити дитину, все буде добре». Вядома, Насці няпроста было гэтую смерць перажыць. А потым яшчэ мама...

# Украінскія нацыяналісты без сала і вышыванак

Алесь КІРКЕВІЧ

**Знайсці АО («Автономний Опір») у Львове не так проста. Сядзібай руху стала памяшканне былога лямпачкавага заводу «Іскра» ў прамысловым раёне непадалёк ад вакзалу. Тут хлопцы трэніруюцца, праводзяць турніры па мікс-файту, ладзяць канцэрты ды гандлююць спартовай вопраткай. Лепшай назвы за «Цытадэль», сапраўды, не прыдумаеш.**

Калі карыстацца ідэалагічнымі клішэ, то АО — этна-анархісты, або нацыянал-анархісты. Галоўныя лозунгі аўтаномаў: «самаарганізацыя ды народаўладдзе», пра якія, дарэчы, усё часцей можна пачуць у Беларусі, дзякуючы скандальнаму «Пошугу», які набыў папулярнасць пасля «Справы графіцістаў».

Пра тое, як знутры выглядае ўкраінскі праобраз «Пошугу», мы паразмаўлялі непасрэдна з



Юра



Сірко

актывістамі АО — Сірко, Юрам ды Антонам.

***— Як патлумачыць чалавеку з вуліцы, хто такія аўтаномы?***

**Сірко.** Насамрэч, гэтая назва сябе ўжо даўно перажыла. Ёсць патрэба ў канструктыве, у будаўніцтве нечага, а АО ствараўся як пратэст супраць палітыкі Януковіча.

Самаарганізацыя, самафінансаванне, аўтаномныя групы, якія камунікуюць без лідара. Такая сабе франшыза. Мы мелі 26 аддзяленняў па Украіне. Мы адны з тых, хто пачаў кампанію за вызваленне Паўлічэнкаў (футбольныя фанаты, бацька і сын. — аўт.). Пасля была кампанія супраць Януковіча: тыя знакамітыя трафарэты з дзіркай у галаве — за гэта была крымінальная справа...

***— З чаго ўсё пачалося?***

**Сірко.** Асабіста я круціўся каля партыі «Свабода», бачыў, што там няма моладзі — адны пенсіянеры. Ішоў 2010 год. Але была купка людзей, якія хацелі нешта рабіць. Мы былі ўльтраправымі, тут няма чаго хаваць, а значыць, да нас ішлі скінхэды, хлопцы з «каляфутболу»... Сабралося ў выніку 10 чалавек, вырашылі, што робім гэтак і гэтак, плацім складкі, інфу пра акцыі кідаем на сайт, паказваем іншым, як трэба рабіць, падымаем хвалю.

***— Тады і пачаўся канфлікт з уладамі?***

**Сірко.** Так, але тады мы яшчэ былі ў цэню «Свабоды». За ўсе нашыя дзеі адказвалі палітычныя лідары, якія не мелі да нас ніякага дачынення, ні на што не ўплывалі. Так мы запрасілі, напрыклад, Юрыя Міхалчышына, бо нам патрэбныя былі спікеры, якія маглі б выступаць на вялікіх акцыях. Пасля з яго зрабілі ледзьве не бацьку АО (смяецца).

У 2012 годзе, калі пачаўся наш канфлікт са «Свабодай», мы аўтаматычна пачалі канфлікт і з «бацькам». Тады Міхальчышын натравіў на нас фанацкія групоўкі, іншых правых... Увосень 2013 года «свабодаўцы» выклікалі на нас «Беркут», калі мы ладзілі «Марш УПА»: тады 57 нашых актывістаў было арыштавана. Яны спрабавалі падаць нас як сепаратыстаў, прарасійскія сілы, а мы ў бусіках спявалі песні УПА... Атрымаўся дысананс.

**Часам складаецца ўражанне, што Захад хоча падштурхнуць Украіну да канфедэрацыі, падзяліць усё на княствы пад кіраўніцтвам алігархаў на фоне грамадзянскай вайны... Але калі так станецца — свой кавалак зямлі трэба будзе трымаць**

***— Раней вас было больш бачна ў Львове, зараз — не. Чаму?***

**Сірко.** Мабыць, раней мы займаліся папулізмам. Шэсць гадоў працы — гэта шэсць гадоў досведу, памылак, барацьбы... Нехта вельмі добра зарабіў палітычныя балы на нашых акцыях і маршах.

Радыкальная нацыяналістычная рыторыка раней была нашым канькам. Зараз мы таксама нацыяналісты, але выступаем за іншы нацыяналізм — без шавінізму, расізму і ксенафобіі. А да чаго гэта магло прывесці? Да рэпрэсіяў, да дыктатуры. Не важна, сіне-жоўты ці чырвоны сцяг, дыктатура — ёсць дыктатура, яна заўжды прыгнятае свой народ.

**Юра.** ОУН-УПА, сцягам якой мы карыстаемся, таксама перажылі эвалюцыю. ОУН у 1930-х і ў 1940-х гадах — гэта дзве розныя арганізацыі. Паводле адной з версіяў, ідэолагі наўпрост паехалі на ўсход Украіны і там сутыкнуліся з іншым светам, дзе «Слава Украіне!» для людзей нічога не значыла... Адтуль яны прывезлі сацыяльныя тэмы, эканоміку, там людзі хацелі хлеба. Як і зараз ва Украіне.

# Дзяўчынка і смерць



Насця сярод дзяцей на спектаклі



Вольга Уладзіміраўна, бабуля, паказвае, колькі ўсяго Насця зляпіла з пластыліну

## «Каб мамы больш не паміралі»

Тады, 18 ліпеня, маму Лізу кантузіла і параніла ў руку. Раненне і кантузія выклікалі хваробы ў 31-гадовай жанчыны, з восені яна надоўга лягла ў шпіталь, адкуль яе адправілі дадому толькі на навагоднія святы. Дома яна і памерла.

— Калі Ліза хварэла, Насця як толькі вочы са сну расплюшчыць, адразу пытаецца: «Як мама? Як яна спала? Што казала?» Калі Ліза яшчэ магла гаварыць, я пераказвала Насці, што яна казала. А калі казаць ужо перастала, я кажу Насці, вось так яна вочкамі паказвала. Насця падыдзе, скажа: «Добрай раніцы», пацалуе яе. У школу ідзе — развітаецца, прыйдзе са школы — павітаецца з ёй… Ліза памерла позна ўначы. Насця, як давядалася пра мамчыну смерць раніцай, усё крычала, што гэта няпраўда, няпраўда! Футболку рвала на сабе зубамі, потым прытомнасць страціла…

На шчасце, Насця змагла перажыць цяжкія страты. Хоць ёй даводзіцца жыць у вельмі незвычайных умовах, яна вядзе жыццё звычайнага дзіцяці. Гуляе ў лялькі, лепіць з пластыліну, лазіць па дрэвах. Дапамагае бабулі па гародзе і з курамі, якіх у іх у гаспадарцы восем. А калі ім на двор прывезлі дровы — падарунак да 8 сакавіка, кажа Вольга Уладзіміраўна, — Насця разам з сяброўкай, дачкой перасяленцаў з Пяскоў, якія жывуць цяпер з імі па суседстве, іх складвалі.

Школа, куды ходзіць Насця, знаходзіцца за тры кіламетры ад дома. У мінулым навучальным годзе бабуля вазіла яе туды на ровары, а ў гэтым ужо дзяцей падвозіць аўтобус. Вучыцца няdrэнна, у школе ўсе падабаецца, толькі вось з англійскай праблемы.

— Я нямецкую вучыла ў свой час, дык настаўніца скардзіцца, што я Насці прышчапіла няправільны акцэнт, нямецкая так і выплясвае. Часам медыкам знаёмым з «Карпацкай Сечы» (раскватараванае ў пасёлку воінскае падраздзяленне. — аўт.) тэлефаную, як вось гэта перакласці, што мне рабіць. Яны мне дапамагаюць. Так і спраўляемся талакою.

Калі мама Насці была жывая, яна сама ўсіх стрыгла, рабіла прычоскі. Насці гэта падабалася, яна марыла аб прафесіі цырульніцы. А калі мамы не стала, Насця вырашыла стаць лекарам: «Каб мамы больш не паміралі».

— Яна калі гэта сказала, у нас дома Андрэй быў, медык з Львова. Ён як пачуў, не вытрымаў, расплакаўся…

## На зло — дабром

Насця стварае ўражанне не па гадах дарослай дзяўчынкі. Дый наогул дзеці ў прыфрантавой зоне выглядаюць значна больш сур'ёзнымі. У нядзелю ў школу Насці прыязджала група валанцёраў з Харкава, паказвалі аматарскі спектакль. Дзеці вельмі ўважліва, зусім без свавольства, сачылі за тым, што адбываецца на імправізаванай сцэне. З дапамогай лялек валанцёры распавядалі пра хлопчыка, які ўсіх задзіраў і крыўдзіў, таму ніхто з ім не хацеў сябраваць. Спачатку героі спектакля хацелі яго пакалаціць, але мудрая мама параіла зрабіць наадварот, пачаць з ім гуляць і запрасіць у госці. Адказаць на зло дабром, як бы ні было няпроста. У спектаклі гэта спрацавала…

Раней дзяцей прыходзілі забаўляць чацвёра салдатаў. Зладзілі ім святочны канцэрт на новы, 2015 год, прынеслі падарункі. Пачалі рабіць рамонт у школе з уласнай ініцыятывы.

— Хлопец там адзін з акардэонам быў, такі ўжо вясёлы. І гэта ж трэба, — кажа Вольга Уладзіміраўна, — менавіта яны на расцяжцы потым падарваліся, загінулі. Насця яшчэ таго жыцця толкам не бачыла, а ўжо столькі смерцяў навокал…

---

***— Як ставіцеся да падзелу на левых і правых сярод маладзевых рухаў?***

**Сірко.** Гульня ў левых і правых — гэта маргінэс, усё змяшалася ў сучасным свеце. Калі браць навукову тэрміналогію, то мы — «левыя» паводле метадаў і погляду на свет. Але мы сябе лічым нацыяналістамі. А гэтае паняцце змяшчае ў сабе і правых, і левых, і зялёных, і чырвоных… Бо гэтая ідэалогія — самадастатковая. Мы не можам, напрыклад, казаць толькі пра нейкія гуманітарныя рэчы, не ўлічваючы сацыяльнай тэматыкі.

У 1990-х гадах нацыяналісты з дыяспары навязалі свой вобраз нацыяналізму. Тых, хто вёў рэальную барацьбу тут, або вынішчылі, або раскідалі па лагерах. Шмат паўстанцаў было менавіта сацыялістамі, якія абвяшчалі барацьбу прыгнечаных народаў супраць бальшавікоў. Пакуль нехта ваяваў у лясах, нехта на Захадзе даваў інтэрв'ю «Радыё Свабодзе» і г.д. Адных знішчылі, а іншыя друкавалі свае ўспаміны, і ў 90-я гады завалілі Украіну гэтымі кніжкамі.

Таму і была такая рыторыка, маўляў, павінна быць жорсткая аўтарытарная ўлада, украінцы — быдла, без бізуна не могуць… А мы пайшлі супраць гэтага, нам гэта не падыходзіць. У выніку нас ненавідзяць усе: для левых мы — фашысты, для правых — камуністы, для ўлады — прарасійскія правакатары…

***— З дзяржавай пасля Майдану якія ў вас адносіны?***

**Сірко.** Год-два таму мы выступалі наогул супраць дзяржавы, за ўладу супольнасцяў. Зараз, пасля Майдану, мы разумеем, што калі прыбраць Парашэнку — будзе хаос, сапраўдны Блізкі Усход з прыватнымі арміямі, якія будуць ваяваць між сабой, змагацца за рэсурсы, за кантроль над стратэгічнымі аб'ектамі…




Вулічныя акцыі

Таму, як ні круці, трэба каб Парашэнка трымаў усё ў руках. Бо ёсць зброя ў людзей, ёсць атрады, ёсць капіталісты, якія іх утрымліваюць. Таму наша задача — займацца асветай і набіраць палітычную вагу, пакуль ёсць час. Калі пачнецца хаос на Украіне, а ён пачнецца праз 2–3 гады, хацелася б, каб хаця б у Львове быў парадак.

***— Майдан перамог?***

**Сірко.** Майдан — гэта толькі адна з прыступак да ўсведамлення чалавекам, што ён можа нешта змяніць. Тое, чаго няма ў Беларусі, Расіі ды іншых аўтарытарных краінах. Гэтая барацьба пачалася ў 1991 годзе, а можа і 400 год таму, з часоў Хмяльніцкага. Папярэдні Майдан быў за Ючшанку, апошні — супраць Януковіча, можа, наступны будзе за заробак у 5 000 еўра! (смяецца).

Украіна — гэта краіна Трэцяга свету, бананавая рэспубліка, дзе людзі працуюць за 20 долараў у месяц. А значыць, гэтая краіна не ёсць суб'ектам, а толькі аб'ектам дагавараякоў іншых дзяржаваў. Таму і адбываецца пакуль вечны «дзень сурка». Але нічога, кажуць, Французская рэвалюцыя цягнулася 80 гадоў, так?..

***— А ёсць у вас саюзнікі?***

**Сірко.** Саюзнікі… Мы самі ствараем сабе саюзнікаў. Напрыклад, рух «Народная дзея», які стварыў АО. Ён складаецца з жыхароў раёнаў, дзе робяцца нелегальныя забудовы, што апошнім часам стала вялікай праблемай. Вось нядаўна быў напад на актывіста — у масках з бітамі напалі на звычайнага мужчыну старэйшых гадоў. У яго за 50 сантыметраў ад вакна пабудавалі дом, уяўляеш? Калі да яго ўдзень заходзіш, трэба свет або ліхтар уключаць. Ён пачаў судзіцца, ідзе барацьба, гэта ўжо другі напад на яго.

**Антон.** Мы спрабавалі ў гэтым руху акурат аб'яднаць людзей з розных забудоваў, бо на кожным праблемным участку ёсць 1–2 «буйных», гатовых змагацца за свае правы. Мы іх звялі разам, яны неяк нават здружыліся. Першыя паўгады гэта была тусоўка з 10 бабулек і 5 пенсіянераў, але ўжо праз год яна перарасла ў рух, якога баяцца чыноўнікі. Калі чыноўнік бачыць у чарговы раз вядомую яму, скажам, пані Цюцько ў гарадской радзе або ў пракурора — яму застаецца толькі хавацца… Атрымаўся няdрэнны прыклад салідарнасці паміж людзьмі, якой заўжды бракуе.

***— Як гэта выглядае на практыцы?***

**Антон.** Паўсюдна па-рознаму, але найчасцей так: мы прыязджаем на сход жыхароў, слухаем. Туды ж, як правіла, прыязджаюць дэпутаты — папіярыцца. Потым кажам людзям: калі вас дэпутаты «кінуць» — званіце нам. Праз месяц прыкладна ўжо званяць. Калі вялікі будынак, шматпавярховы, бярэм з сабой улёткі. Калі меншы — то бок людзей 10–15, то можна і пагутарыць з кожным.

**Сірко.** Асноўная наша тэза: мы не будзем за вас вырашаць вашы праблемы. Калі мы бачым, што вы не хочаце варушыцца, то і нам не трэба. Гэта дэпутаты кажуць: «Мы за вас вырашым праблемы», а мы можам толькі дапамагчы. Людзі разумеюць, што іншага выйсця няма: або робіш, або маўчыш.

Для пенсіянераў, дык гэта наогул цудоўная перспектыва. Адна справа — сядзець на лавачцы пад домам, суседа абгаворваць, іншая — нахіляць чыноўніка! Гэта ж весялуха на старасць гадоў! (смяецца).

**Антон.** Ну сур'ёзна, шмат для каго гэта другое жыццё! За саўком такое нельга было рабіць. У 90-я гады за гэта маглі забіць. А зараз — самы час.

***— У Заходняй Украіне часам уплывае тэма аддзялення. АО — сепаратысты?***

**Антон.** Мы нават ДНР і ЛНР не лічым сепаратыстамі. Гэта мы, украінцы, сепаратысты, бо спрабуем вырвацца з Расійскай імперыі… А аддзяляцца ад Украіны нейкім анклавам мы не збіраемся, канешне.

**Сірко.** Часам, калі чытаю навіны, складаецца ўражанне, што Захад хоча падштурхнуць Украіну да канфедэрацыі, правесці легалізацыю ДНР і ЛНР, падзяліць усё на княствы пад кіраўніцтвам алігархаў на фоне грамадзянскай вайны… Безумоўна, гэта скрайняя кропка. Але калі так станецца — свой кавалак зямлі трэба будзе трымаць.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Казакі супраць казахаў

Казахскай грамадскасці нарэшце сталі вядомыя вынікі з'езда Каардынацыйнага савету рускіх, казацкіх і славянскіх арганізацый Казахстана, які адбыўся прыкладна месяц таму і фактычна застаўся за рамкамі ўвагі грамадскасці краіны. Зараз высвятляецца, што ўдзельнікі з'езду, галоўным чынам казакі, прынялі шэраг вельмі радыкальных рэзалюцый, у тым ліку заклік да змены канстытуцыі краіны. Так, яны прапануюць «заканадаўча замацаваць прапарцыйнае нацыянальнае прадстаўніцтва ў органах усіх галін дзяржаўнай улады». На думку прэсы, фактычна гэта будзе значыць стварэнне ў некаторых раёнах Казахстана аўтаномных казацкіх адміністрацый, што можа стаць прадвеснікам паўтору крымскіх падзей. Пакуль цэнтральная ўлада слаба рэагуе на казацкія выбрыкі. Аднак, на думку экспертаў, гэта не значыць, што там не сочаць за настроямі сярод рускамоўных. Лічыцца, што ўлада будзе намагацца блакаваць дзейнасць сепаратыстаў без гучных акцый, за кошт адміністратыўнага ціску, стварэння альтэрнатыўных казацкіх цэнтраў, маргіналізацыі лідараў і г.д. Эксперты таксама лічаць, што Масква заплюшчыць вочы на пераслед руху казакоў у Казахстане. Такая лінія Крамля прадыктаваная тым, што стварэнне казацкай аўтаноміі ў Казахстане адразу стане прыкладам для расійскіх станічнікаў. Сярод апошніх хапае аматараў рэстаўрацыі правоў і вольнасцяў, якія казакі мелі да рэвалюцыі 1917-га, у тым ліку права на тэрытарыяльна-адміністратыўную аўтаномію.

**Паводле казахскай прэсы**

### БАЛІВІЯ. Песня супраць эпідэміі

Міністэрства аховы здароўя Балівіі прапанавала арыгінальны план спынення распаўсюджвання ліхаманкі Зіка, якая атакуе краіны Лацінскай Амерыкі. Нагадаем, што пераносчыкамі хваробы з'яўляюцца камары. У людзей вірус выклікае захворванне, характэрнымі сімптомамі якога з'яўляюцца сып, галаўны і сустаўны боль, ліхаманка, апуханне суставаў. На цяперашні дзень вірус мае характар пандэміі. Між тым, у Балівіі спыніць ліхаманку вырашылі з дапамогай песні. У структурах Міністэрства аховы здароўя напісаная песня «Limpia, desecha, voltea y tapa», што можна перакласці як «Чысці, выкідвай смецце, праветрывай і падтрымлівай каранцін». У песні распавядаецца пра асноўныя прафілактычныя метады супраць хваробы. Паводле падлікаў Міністэрства аховы здароўя, толькі за першы месяц з даты запуску праекту песню на розных радыёстанцыях і на тэлебачанні пракруцілі больш за сто тысяч разоў. Застаецца дачакацца статыстыкі, каб высветліць эфектыўнасць новага метаду. Перад тым, як у пачатку лютага, калі песня трапіла ў эфір, у краіне было зарэгістравана 11 выпадкаў захворвання на ліхаманку Зіка.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ЗША. Эміграваць вымушае Трамп

Вядучая ў свеце пошукавая сістэма Google зафіксавала выбух інтарэсу амерыканскіх веб-карыстальнікаў да тэмы эміграцыі ў Канаду. Пытанне пра атрыманне статусу імігранта ў Канадзе за вельмі кароткі час задалі ў ЗША на 350 працэнтаў больш, чым звычайна. Паколькі феномен меў месца 1–2 сакавіка, усе каментатары дружна кажуць пра палітычны чыннік, а дакладней, фактар Дональда Трампа, які выйграў 1 сакавіка так званы «Суперайторак» — партыйныя праймерыз у шэрагу штатаў, што ўплывае на канчатковы вынік выбараў кандыдата ад партыі. І хаця перамога Трампа яшчэ не гарантаваная, ліберальная публіка ў шоку. Хапае сумных прагнозаў, што Трамп пахавае існуючую больш за сто гадоў у Злучаных Штатах двухпартыйную сістэму. Наступае час, калі на палітыку пачынае ўсё больш уплываць кансерватыўная ксенафобская амерыканская правіцыя, месіяй якой і з'яўляецца Трамп. На гэтым фоне Канада, дзе кіруюць лібералы, для шмат каго ў ЗША выглядае бастыёнам дэмакратыі. Дарэчы, адзін з канадскіх муніцыпалітэтаў ужо пачаў кампанію па запрашэнні да сябе імігрантаў з ЗША. Калі верыць яе арганізатарам, толькі за першыя дні кампаніі муніцыпальны сайт наведала 650 тысяч інтэрнэт-карыстальнікаў з ЗША.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ЧЭХІЯ. Аксамітавая контррэвалюцыя

Левыя партыі Чэхіі, якія маюць большасць у ніжняй палаце чэшскага парламента, праштурхнулі закон, паводле якога мяняецца назва свята, што адзначаецца 17 лістапада. Гэта дзень стаў чырвонай датай у Чэхіі праз тое, што менавіта 17 лістапада ў 1989 годзе пачалася славутая аксамітавая рэвалюцыя – мірныя грамадзянскія пратэсты, якія прымусілі камуністаў адысці ад улады. У 2000 годзе гэты дзень абвясцілі святочным як Дзень барацьбы за свабоду і дэмакратыю. Цяпер ёсць думка ўнесці некаторыя карэктывы, а менавіта святкаваць 17 лістапада як Дзень барацьбы за дэмакратыю і дзень студэнтаў. Ініцыятары змены — эсдэкі і камуністы — кажуць, што нельга забываць пра забойства нацыстамі 17 лістапада 1939 года чэшскіх студэнтаў, якое, дарэчы, стала падставай, каб пазней абвясціць гэту дату міжнародным днём студэнтаў. Іх правыя апаненты, між тым, бачаць тут замах на спадчыну аксамітавай рэвалюцыі, на прынцыпах якой пабудаваная цяперашняя чэшская дзяржава.

**Паводле чэшскай прэсы**

**Усе міжнародныя аналітыкі адзінадушныя: 13 сакавіка, пасля парламенцкіх выбараў у шэрагу земляў, у гісторыі Германіі пачнецца новы этап. Пра тое, чаму рэгіянальным выбарам надаецца такая ўвага і што чакае краіну, журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае берлінскі грамадскі актывіст Штэфан Лоран.**




Фота www.breitbart.com

# Новая Германія

***— У трох федэральных землях Рэйнланд-Пфальц, Бадэн-Вюртэмберг і Саксонія-Ангальт, адбудуцца выбары. Сітуацыя вакол іх трошкі дзіўная: пра выбары кажуць і пішуць вельмі шмат, хаця асноўны вынік галасавання вядомы ўжо зараз — правапапулісцкая, еўрафобская партыя «Альтэрнатыва для Германіі» атрымае фракцыі ва ўсіх трох ландтагах.***

— Шуміха вакол выбараў 13 сакавіка — хутчэй масавы посттраўматычны эфект, дзе траўма ёсць усведамленне непрыемнага факту — прарыў «Альтэрнатывы для Германіі» (AfD) непазбежны. На вачах адбываецца дэмантаж усяго канцэпту праекту ФРГ, палітычная сістэма якой была задумана так, каб пасляваенная Германія не паўтарыла сумны вопыт Веймару. Сёння мы назіраем, як па-сутнасці антыдэмакратычная палітсіла праз выбары прыходзіць ва ўладу. Прычым у такім колькасным выражэнні, што можна казаць пра выклік на адрас усёй мадэлі. Так, у Саксоніі-Ангальт спіс «Альтэрнатывы для Германіі» можа атрымаць каля 17–20 працэнтаў. У іншых дзвюх землях за еўрафобаў збіраюцца галасаваць каля 11–13 працэнтаў.

***— Сваю выбарчую рэкламу «Альтэрнатыва для Германіі» будуе на эмацыйных антыімігацыйных лозунгах. Аднак з міжнароднай тэматыкай на рэгіянальным узроўні працаваць нельга. Што канкрэтна прапануе «Альтэрнатыва для Германіі» выбаршчыкам, які пойдуць галасаваць у гэты ўік-энд?***

— Уважліва прачытаўшы праграму AfD і інтэрв'ю яе лідараў, любы палітолаг скажа, што ў палітычным вымярэнні мы маем справу з ліберальна-кансерватыўнай партыяй. Гэты праект сумяшчае ліберальныя эканамічныя патрабаванні (замарожванне мінімалкі) з кансерватыўнай культурнай палітыкай (скасаванне жаночых квот у кіраўніцтве). Не думаю, што такія ідэі занадта папулярныя ў асяроддзі бюргераў. Пытанне ў тым, што выбаршчык «Альтэрнатывы для Германіі» дэталямі яе праграмы не цікавіцца. Перш за ўсё, яго выбар — гэта пратэстнае галасаванне супраць міграцыйнай палітыкі Меркель.

Ёсць версія, што AfD пойдзе шляхам Партыі Піратаў, якая прыкладна пяць гадоў таму на хвалі крызісу даверу да тытульных партый трапіла ў некалькі ландтагаў. Пасля, не маючы адказаў на паўсядзённыя праблемы рэгіёну, Партыя Піратаў хутка стала маргіналам. Аднак для паўтору такога сцэнару патрэбны нейкі час, а падзеі зараз развіваюцца вельмі імкліва.

***— Нават 17–20 працэнтаў замала для таго, каб самастойна сфармаваць зямельны ўрад. Ці магчымая міжпартыйныя блокі з удзелам «Альтэрнатывы для Германіі»?***

— На дадзеным этапе ніхто з партый істэблішменту не будзе весці перамовы наконт урадавай кааліцыі з AfD. Пакуль яна лічыцца парыяй-ізгоем. Хаця з боку правых кансерватараў сапраўды часам гучаць прапановы прагматычна ставіцца да феномену «Альтэрнатывы для Германіі», спрабаваць наладзіць дыялог з больш-менш канструктыўнай часткай еўраскептыкаў.

**20%**

**галасоў можа атрымаць выбарчы спіс «Альтэрнатывы для Гемарніі» ў Саксоніі-Ангальт. У іншых землях за еўрафобаў збіраюцца галасаваць каля 11–13%**

***— У выпадку, калі 13 сакавіка AfD атрымае салідную порцыю галасоў, можна будзе казаць пра пачатак канца палітычнай кар'еры Ангелы Меркель і крызіс урадавай кааліцыі?***

— Такія прагнозы ёсць, аднак усё не так проста. Напрыклад, эканамічна Германія выглядае больш стабільна на фоне краін-суседзяў. Па-другое, на каго або на што разменьваць немцам? Асноўныя канкурэнты хрысціянскіх дэмакратаў (CDU), эсдэкі, перажываюць напэўна, самыя кепскія часы ў сваёй гісторыі. У дзвюх з трох земляў, дзе 13 сакавіка пройдуць выбары, за іх збіраюцца галасаваць каля 13 працэнтаў. Увогуле, паводле сацапытанняў, не кансерватыўны выбаршчык, а менавіта выбаршчык-эсдэк гатовы здрадзіць сваёй партыі на карысць AfD. Каб спыніць паток партыйных дзэерціраў, некаторыя мясцовыя асяродкі SPD нават спрабуюць перахапіць у еўрафобаў ініцыятыву. Намагаюцца больш актыўна пазіцыянаваць сябе ў ролі крытыкаў міграцыйнай палітыкі ўраду, што пакуль асабліва дывідэндаў не прыносіць. У выніку партыйнае жыццё ў ФРГ падобнае на ілюстрацыю да славутага твору Свіфта: ёсць Гулівер — партыя кансерватараў, вакол якога мітусяцца шмат ліліпутаў — іншых партый. У такіх умовах Меркель няма альтэрнатывы. Аднак ва ўмовах крызісу магчымыя іншыя фактары, якія будуць уплываць на сітуацыю.

***— Практычна напярэдадні выбараў Меркель, падаецца, пайшла ва-банк. На саміце ЕС — Турцыя, што адбыўся на гэтым тыдні, Анкара, быццам, пагадзілася выставіць бар'ер на шляху бежанцаў, якія намагаюцца трапіць у Еўропу з Блізкага Усходу. Ці адлюструецца навіна з Брусэля на сімпатыях выбаршчыкаў?***

— Пакуль фінальных дакументаў саміту ніхто не бачыў, а тое, што вядома, патрабуе дадатковай інфармацыі. Фігуруе сума ад 3 да 7 мільярдаў еўра, якую Еўропа будзе штогод плаціць туркам за барацьбу з міграцыйнымі патокамі, будаўніцтва цэнтраў для мігрантаў і г.д. Адкуль возьмуцца гэтыя грошы? Ці адаб'ецца кампенсацыя туркам на бюджэтах краін-сяброў ЕС? Адказаў пакуль няма. У любым выпадку, левыя партыі будуць супраць здзелкі з Турцыяй, паколькі Еўропа дае Эрдагану індульгенцыю на пераслед курдаў, кампанію супраць вольнай прэсы, крыміналізацыю апазіцыі і грамадзянскага сектару. Правы выбаршчык байца абяцанага шэнгену для турак, якія ў яго вачах мала адрозніваюцца ад іншых мусульман. Дамова з Турцыяй, якая ў дадатак пакуль застаецца на паперы, у любым выпадку не спыніць цяперашні палітычны крызіс у Германіі, які пасля 13 сакавіка выйдзе на нейкі новы этап.

# Лятаючыя талеркі Хілары Клінтан

Алег НОВІКАЎ

**Абяцанне Хілары Клінтан зняць грыф сакрэтнасці з дзяржаўных матэрыялаў пра іншапланецян выклікала нябачны энтузіязм сярод уфолагаў і насцярожанасць у грамадстве.**



Фота www.newstes.ru

Першы раз тэма НЛА прагучала з вуснаў Хілары Клінтан у студзені. Адказваючы на правакацыйнае пытанне журналіста, якога ўвесь свет ведае як фаната паранармальных феноменаў, яна паабяцала ў выпадку перамогі абавязкова разабрацца з зялёнымі чалавечкамі. Паколькі ў гэты час Хілары шырока пасміхаўся, публіка ўспрыняла яе заяву як жарт, дарэчны для адказаў на падобныя пытанні. Адразу шмат хто згадаў вядомы фрагмент аднаго з гумарыстычных шоу, на якое быў запрошаны Барак Абама. Вядучы тады прызнаўся, што зайздросціць Абаму, прэзідэнцкі статус якога дазваляе яму залезці ў сакрэтны дзяржаўны архіў пра іншапланецян. Абама ў сваю чаргу расчараваў суразмоўца, заявіўшы, што іншапланецяне наўрад ці дазволяць яму залезці ў сакрэтныя тэчкі, і выклікаў смех у аўдыторыі.

Аднак чым далей ідзе прэзідэнцкая кампанія, тым больш сумневаў у тым, што Хілары Клінтан жартавала. Спачатку напярэдадні праймерыз у Нью-Гемпшыры ў інтэрв'ю мясцовай газеце яна паабяцала «дакапацца да дна ў містычных гісторыях з НЛА». Пасля на палітычную сцэну выйшаў будучы менеджэр яе выбарчага штабу Джон Падэста, які раней працаваў дарадцам Абамы і лічыцца заўзятым аматарам тэорыі пра існаванне іншапланецян.

Напярэдадні лютаўскага праймерыз у Невадзе ён паведаміў журналістам, што Хілары «вельмі сур'ёзна ўспрымае прабелматыку НЛА». «Я размаўляў з Хілары на гэтую тэму. Ёсць шэраг сакрэтных тэчак, якія трэба адчыніць. (...) Я мяркую, што людзі маюць права атрымаць адказы на шэраг пытанняў».

Адначасова высветлілася, што пара Клінтанаў сапраўды даўно ў тэме. Прыкладна ў сярэдзіне 1990-х гадоў Лоўрэнс Ракфелер — прадстаўнік славутага банкірскага клану — намагаўся дабіцца праз першую лэдзі слуханняў у кангрэсе наконт кантактаў людзей з іншапланецянамі (сам Ракфелер налічыў 17 падобных кантактаў). Быццам, Хілары была не супраць пралабіраваць такія дэбаты, аднак хуткі скандал з Монікай Левінскі прымусіў яе пераключыцца на іншыя тэмы.

Яшчэ больш цікавым падаецца спіч на той час ужо былога прэзідэнта Біла Клінтана ў 2005 годзе, у якім быў такі пасаж: «Будучы прэзідэнтам, я зрабіў спробу высветліць, ці ёсць якія-небудзь сакрэтныя ўрадавыя дакументы пра падобныя рэчы (НЛА), і ці не былі яны схаваныя ад мяне таксама. Я не быў бы першым прэзідэнтам, якому хлусілі. Сапраўды, можа быць нейкі чалавек, які хавае гэтыя цёмныя таямніцы нават ад абраных прэзідэнтаў». У той жа прамове Клінтан заявіў, што не будзе вельмі здзіўлены, калі заўтра на Зямлю прыляцяць нейкія марсіяне.

Усё гэта дазваляе шэрагу выданняў заключыць, што ў час прэзідэнцтва Хілары Клінтан сапраўды адбудзецца нешта эпахальнае — грамадскасць атрымае доступ да зачыненых пакуль архіваў спецслужбаў ЗША наконт паранармальных з'яваў. Пытанне, што мы атрымаем у выніку? Зараз існуе некалькі прагнозаў.



**Хілары Клінтан быццам была не супраць пралабіраваць дэбаты наконт кантактаў з іншапланецянамі**

Найбольш фантастычны, варты фільмаў Галівуду, варыянт, калі ў тых файлах мы знойдзем дакументальнае пацвярджэнне тэорыі пра існаванне іншапланецян, і больш таго, факты іх кантактаў з амерыканскімі ўладамі. Тут, натуральна, уфолагаў больш за ўсё будуць цікавіць матэрыялы па так званаму Розуэльскаму інцыдэнту (Roswell incident) — меркаванаму крушэнню неапазнанага лятаючага аб'екта каля горада Розуэл у штаце Нью-Мексіка (ЗША) у ліпені 1947 года. Згодна з афіцыйнай пазіцыяй ВПС ЗША, выяўлены аб'ект з'яўляўся метэазондам. У розных публіцыстычных крыніцах папулярная версія, згодна з якой аб'ект быў касмічным караблём, пілота якога ўрад ЗША захапіў, каб праз яго выйсці на сувязь з далёкай Галактыкай. Адсюль байкі пра тое, што іншапланецяне так ці інакш кансультуюць Белы дом.

Магчымы і варыянт, калі ў сакрэтных файлах будзе знаходзіцца выключна дэталёвае апісанне розных незвычайных падзей, кшталту палётаў незразумелых аб'ектаў. На думку некаторых каментатараў, гэта таксама някепска, паколькі дэталёвае апісанне іншапланетных машын як мінімум натхніць навукоўцаў вывучаць прынцып іх працы, што ў перспектыве дапаможа распрацоўцы апаратаў, якія не працуюць на традыцыйных відах энергіі.

Не будзе праблемай, калі нічога асаблівага ў тэчках з надпісам «Вельмі сакрэтна» створаная Клінтан прэзідэнцкая камісія не знойдзе. У такім выпадку ўвесь свет стане сведкам трыумфу амерыканскай дэмакратыі, калі кожны просты грамадзянін кантралюе ўладу, у якой ад яго не можа быць сакрэтаў. У гэтым кантэксце адкрыццё архіваў пра НЛА выглядае як сімвалічны антыдот супраць бюракратызацыі дзяржаўнага апарату, адарванасці чыноўнікаў ад народу. Па сутнасці, на гэтым тэзісе і робіць націск тыя, хто заклікае адчыняць архівы. «Мы павінны зрабіць гэта (раскрыць файлы пра НЛА), таму што гэта праява справядлівасці, таму што амерыканскі народ здольны апрацоўваць праўду. Нарэшце, мы павінны гэта зрабіць, таму што гэта закон», — кажа Джон Падэста, памочнік Барака Абамы.

Цікава, што крытыкі Клінтан баяцца менавіта апошняга варыянту, калі адкрыццё архіваў пра НЛА стане падставай для запуску прапагандысцкай кампаніі, якая павінна кампенсаваць грамадству правалы адміністрацыі дэмакратаў або адцягнуць увагу ад кампраметуючых старонак біяграфіі яе сябраў. Той жа Падэста вядомы як лабіст інтарэсаў цэлага спектру карпарацый, некаторыя з якіх літаральна дэманізаваныя ў масавай свядомасці.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Даля Грыбаўскайтэ



Прэзідэнта Літвы параўналі з Лукашэнкам і Пуціным. Зрабіла гэта кіраўніцтва Сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы (СДПЛ) на чале з Альгірдасам Буткявічусам, якая з'яўляецца асноўнай кааліцыйнай сілай ва ўрадзе. Падставай для параўнання паслужылі заклікі кіраўніка дзяржавы вырашыць пытанне аб магчымым працягу працы міністра навакольнага асяроддзя, на якога ўпаў цень падазрэння ў карупцыі. Старшыня СДПЛ Буткявічус, у сваю чаргу, канстатаваў, што інструкцыі з боку прэзідэнта «ўсё больш падобныя на палітыку прэзідэнтаў некаторых нашых усходніх суседніх краін». Можна не сумнявацца, што падобны абмен «кампліментамі» пацягне за сабой канфлікт паміж галінамі літоўскай улады, у тым ліку паколькі за Грыбаўскайтэ стаіць кансерватыўная апазіцыя, якая не супраць сфармаваць урад у меншасці. На думку некаторых літоўскіх палітолагаў, прэзідэнт Літвы не імкнецца зрынуць урад, а толькі хоча аслабіць сацыял-дэмакратаў перад выбарамі. Між тым, Брусэль праз свайго еўракамісара ў Літве выказаў трывогу за палітычную стабільнасць у краіне на фоне росту рэгіянальнай напружанасці.

### Барыс Калар



Славацкі алігарх і палітык, лідар партыі «Sme rodina» (слав.: «Мы сям'я»), пабіў усе існуючыя рэкорды палітычнага папулізму ва Усходняй Еўропы пасля таго, як яго структура атрымала 6,2 працэнта на парламенцкіх выбарах у Славакіі 6 сакавіка. Справа не толькі ў тым, што партыя была заснаваная практычна напярэдадні выбараў, і нават па сутнасці не мела праграмы, робячы стаўку выключна на антыімігранцкія фобіі і абяцанне вярнуць славакам усе грошы, якія ў іх скралі. Выклікае неразуменне сама аргументацыйная логіка палітычнай рэкламы партыі, за якую, дарэчы, прагаласавала каля 260 тысяч чалавек. Выбаршчыкам прапаноўвалася галасаваць за Барыса, бо «ён мае дастаткова грошай, таму не дазволіць, каб ім маніпулявалі або яго падкуплілі». Значнае месца ў ідэалогіі партыі займае тэма кампутара, які Барыс (нарадзіўся ў 1965 годзе) прадаў напрыканцы 1980-х, каб на атрыманыя сродкі пачаць свой бізнес. Адзіны пазітыў у гэтай сітуацыі заключаецца ў тым, што выбаршчык «Sme rodina» не прагаласаваў за іншую антыіміграцкую структуру — Народную партыю — Наша Славакія, кіраўніцтва якой адкрыта сімпатызуе Гітлеру і настальгуе па Славацкай дзяржаве, марыянетачнаму пранацысцкаму дзяржаўнаму фармаванню, якое існавала ў 1939–1944 гадах.

### Арнальда Атэгі



Культавы лідар забароненай у Іспаніі баскскай партыі «Батасуна» (былая палітычна вітрына тэрарыстычнай групоўкі ЕТА) выйшаў з турмы, куды ў свой час трапіў за тое, што, быццам, падрадкаваўся інструкцыям ЕТА. Выхад Атэгі на волю баскскія нацыяналісты ўспрынялі як свята: на першую публічную сустрэчу з экс-вязнем прыйшло каля 10 тысяч чалавек. У сваю чаргу, Атэгі падзяліўся з імі планамі. Палітык плануе адкрыць у Краіне Баскаў другі пасля каталонскага фронт барацьбы за ліквідацыю іспанскай дзяржавы. Праўда, на гэты раз Атэгі кажа пра выключна мірныя сродкі барацьбы, якія ў тым ліку ўключаюць дыялог з новай генерацыяй іспанскіх левых з партыі «Podemos». «Podemos», у адрозненне ад традыцыйных іспанскіх левых, дастаткова абыякава ставіцца да дзяржаўнага адзінства Іспаніі, прапануючы каталонцам і баскам самім праз рэферэндум вызначыцца наконт будучага гэтых рэгіёнаў. Атэгі таксама паведаміў пра намер балатавацца на пасаду lehendakari — кіраўніка ўраду баскскай аўтаноміі. Застаецца дадаць, што іспанская ўлада дастаткова вольна ставіцца да прававых працэдур, калі гаворка тычыцца звязаных з ЕТА асобаў. На думку прэсы, Атэгі маглі лёгка інкрымінаваць іншы артыкул і далей трымаць за кратамі. Тое, што яго выпусцілі, таксама тлумачаць адмоўным стаўленнем Атэгі да перспектыў ЕТА. Яго аўтарытэт і парламенцкая дзейнасць, мауляў, могуць паскорыць працэс канчатковага самароспуску гэтай тэрарыстычнай арганізацыі.



Чыгуначны вакзал Брэст Цэнтральны, 1933 г.



Транссібірскі люкс экспрэс у Стоўбцах, 1934 г.




Чыгуначны вакзал у Стоўбцах

# РКР. Польская чыгунка ў Заходняй Беларусі



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У міжваеннае дваццацігоддзе Польшча займала пятае месца ў Еўропе па працягласці чыгуначных шляхоў. Шмат з іх праходзіла па тэрыторыі Заходняй Беларусі.**

## Стратэгічнае прадпрыемства

У 1919 годзе ў толькі што адроджанай Польшчы было створана Міністэрства чыгункі. У гэты час Другая Рэч Паспалітая знаходзілася ў вайне са шматлікімі суседзямі, і пра адбудову, а галоўнае — мадэрнізацыю чыгуначных шляхоў думаць не выпадала. Толькі ў верасні 1926 года дэкрэтам польскага прэзідэнта Ігнацыя Масціцкага было ўтворана прадпрыемства «Польская дзяржаўная чыгунка» (PKP).

На працягу 1920–1930-х гадоў дзяржава ўвесь час павялічвала долю свайго ўдзелу ў гэтай кампаніі. У 1926 годзе, адразу пасля стварэння прадпрыемства, улады Польшчы ўклалі ў чыгунку 7 мільёнаў 466 тысяч злотых. У 1935 годзе гэтая сума ўжо склала 9 мільёнаў 418 тысяч злотых. PKP атрымала магчымасць выпускаць аблігацыі. Усё гэта паспрыяла будаўніцтву новых кіламетраў дарог.

Пры гэтым у PKP былі і праблемы. Ва ўсходніх ваяводствах былі шырокія «рускія» рэйкі. А на тэрыторыях былой Аўстра-Венгерскай імперыі на чыгунцы быў левабаковы рух. Некаторыя гарады (як, напрыклад, Львоў) увогуле не мелі чыгуначнага спалучэння з польскай сталіцай. У сваю чаргу, цягнік з Варшавы да Вільні ў пачатку 1920-х гадоў ехаў... 20 гадзін! Усё гэта давялося мяняць і прыводзіць да агульнай сістэмы.

Вагонны парк таксама пакідаў жадаць лепшага. Вагонам было па 20 гадоў, лакаматывам — больш за 10. Польская дзяржава спрабавала палепшыць сітуацыю, аднак да нападу Германіі на Польшчу правесці поўную мадэрнізацыю рухомага складу PKP так і не ўдалося. Пры гэтым вылучаліся сродкі на набыццё люксавых турыстычных вагонаў. Што ж тычыцца паравозаў, то ў пачатку 1930-х гадоў у Польшчы былі распрацаваны і выпушчаны найбольш моцныя на той час у Еўропе лакаматывы «Pu 29», вага якіх складала 113 тон. Яны з лёгкасцю цягнулі 19 вагонаў з хуткасцю 100 кіламетраў на гадзіну. У сваю чаргу, фабрыка ў Хжанове выпусціла паравоз «Pt 31», які развіваў хуткасць 110 км/г. У 1936 годзе быў распрацаваны паравоз «Pm 36», які хутка атрымаў залаты медаль на Сусветнай выставе ў Парыжы. Там жа, у Хжанове, былі распрацаваны пасажырскія вагоны «Lux-torpeda», якія мелі рухавік. З хуткасцю ў 140 км/г яны вазілі пасажыраў з Кракава на курорт Закапанэ (у тым ліку, і праз Львоў).

## Царская спадчына

Большасць чыгуначных шляхоў у Заходняй Беларусі знаходзілася ў юрысдыкцыі Віленскай і Львоўскай дырэкцый PKP. Калі казаць пра магістралі, то гэта ў асноўным былі былыя царскія дарогі, пабудаваныя яшчэ ў часы імперыі Раманавых. Гэта дарогі з Пецярбурга на Варшаву (праз Вільню), з Балагога на Полацк і далей, з Масквы ў Еўропу (праз Мінск), а таксама з Вільні на Роўна і з Граева, праз Брэст, на Ковель. У міжваенны час будаваліся і новыя шляхі, напрыклад, Варапаева — Друя — мяжа СССР і Латвіі. Гэтая чыгунка мела вайскова-стратэгічнае значэнне. Чыгунка ў раёне Беласток — Гродня ў асноўным выкарыстоўвалася для абслугоўвання лесапільнай прамысловасці. Дарога Зарэмба — Беласток — Гродня — Марцінканцы з'яўлялася часткай былой царскай Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі, якая будавалася ў 1851–1862 гадах. Галоўным чыгуначным вузлом тут быў Беласток. Адсюль ішлі шляхі на Баранавічы, Брэст на Бугу, Граева.

Паралельна лініі Зарэмба — Марцінканцы ішла дарога Семятычы — Ваўкавыск — Маладзечна — Захацце. Яна таксама з'явілася ў царскія часы і пачыналася ў расійскім мястэчку Балагое. У міжваенны час на гэтай галіне існаваў чыгуначны памежны пераход Захацце — Фарынава — Полацк (БССР). У сярэдзіне 1930-х гадоў тут ездзіла адна пара цягнікоў. У 1939 годзе частата чыгуначнага руху была зніжана да двух саставаў у тыдзень. Сюды таксама даходзіў цягнік з Вільні.



«Lux-torpeda». 1936 г.

У Белавежскай пушчы важнае для дрэваапрацоўкі месца займала станцыя Гайнаўка. Тут знаходзілася некалькі лесапільных заводаў. У Лідзе знаходзіўся металаапрацоўчы і некалькі дрэваапрацоўчых заводаў, дзеля чаго патрэбна была і чыгунка, якая тут перасякалася з лініяй Бенякон — Баранавічы.

Побач з савецкай мяжой знаходзіўся важны чыгуначны вузел — Маладзечна, дзе перапляталіся галіны былых царскіх Лібава-Роменскай і Балагое-Седлецкай чыгунак. На Усход ад горада знаходзіўся памежны пераезд Аляхновічы — Радашковічы. У сярэдзіне 1930-х гадоў тут курсавала дзве пары цягнікоў, адна з якіх перасякала мяжу з БССР. У 1939 годзе да Аляхновіч ездзіла тры пары цягнікоў, пры гэтым польскі цягнік перасякаў польска-савецкую мяжу толькі ў сераду.

## «СССР — Еўропа»

У беларускім Палессі важным чыгуначным вузлом была станцыя ў Брэце-на-Бугу. Адсюль (як і сёння) ішоў шлях праз Баранавічы да Стоўбцаў. Да Кастрычніцкага перавароту 1917 года гэтая лінія ўваходзіла ў склад Маскоўска-Брэсцкай і Варшаўска-Цярэспальскай дарогі. Тут было два чыгуначных шляхі. Варта, аднак, улічваць, што рух міжнародных цягнікоў да мяжы з СССР у міжваенны час адбываўся не праз Брэст, а праз Беласток. У польскім Дзяржаўным раскладзе руху цягнікоў і самалётаў за 1936 год пазначалася, што цягнік № 501 выязджаў са станцыі Варшава-Галоўная ў 15.25, ехаў праз Беласток — Ваўкавыск — Баранавічы і прыязджаў у Стоўбцы. Да гэтага цягніка прычапляліся вагоны Берлін — Негарэлае, Парыж — Негарэлае, Варшава-Галоўная — Негарэлае, якія накіроўваліся ў СССР. Далей, праз Мінск, цягнік з еўрапейскімі вагонамі ехаў на Маскву.

У 1938 годзе з Еўропы ў Савецкі Саюз ехаў цягнік «Nord-Express» з Парыжу і Кале. У Варшаве еўрапейскія вагоны прычаплялі да цягніка, які ішоў у Маскву. Пасля мяжы ў Негарэлым цягнік ішоў праз Мінск і Оршу ў савецкую сталіцу і далей, праз Омск, Іркуцк і Хабараўск аж ва Уладзівасток. У 1939 годзе цягнік Варшава — Негарэлае ездзіў па панядзелках, серадах і пятніцах да Негарэлага і ў нядзелю да Стоўбцаў. Да гэтага цягніка прычаплялі вагоны Кале — Негарэлае і Парыж — Негарэлае. У сваю чаргу, цягнік Стоўбцы — Кале выязджаў у чацвер з савецка-польскай мяжы і на наступны дзень быў у Францыі. Цягнік са Стоўбцаў у французскую сталіцу адпраўляўся кожную суботу і быў на месцы ў нядзелю.

## З Вільні ў Заходнюю Украіну

Буйнымі станцыямі на Палессі былі Янаў (з якога ішла чыгуначная галіна на Камень-Кашырскі), Пінск (дзе знаходзілася база рачной флатыліі ВМФ Другой Рэчы Паспалітай), Лунінец (на перасячэнні ліній Ліда — Сарны). На ўчастку Ліда — Баранавічы знаходзілася станцыя Наваельня, з якой ішла вузкакалейка да Любчы. Праз Валынь праходзілі чыгуначныя шляхі Лунінец — Роўна — Краснае, якая была працягам ліній Бенякон — Ліда — Баранавічы — Лунінец. Гісторыя гэтай магістралі пачалася ў 1884–1885 гадах, калі царскія ўлады будавалі дарогу Вільня — Роўна. На Поўначы быў чацвёрты памежны чыгуначны калідор паміж Польшчай і СССР: Мікашэвічы — Жыткавічы. Сюды даходзіла пяць пар цягнікоў (у тым ліку з Варшавы-Віленскай). Мяжу перасякала адна пара грузавых цягнікоў (у панядзелкі і пятніцы).

У польскім Дзяржаўным раскладзе руху за 1930 год адзначалася, што цягнік накіроўваўся з польскай сталіцы ў 8.40 і ішоў праз Берасце — Жабінку — Пінск — Лунінец — Мікашэвічы — Жыткавічы — Калінкавічы — Гомель.

***

30 верасня 1939 года было прынята пастанаўленне Палітбюро ЦК ВКП(б) «Аб чыгуначнай сеці ў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне», у якім, у прыватнасці, загадвалася: падзяліць былую польскую чыгунку на чатыры дарогі: Заходнюю, Беларускую, Віленскую і Брэст-Літоўскую; вызначыць межы дарог; прызначыць кіраўніком Віленскай дарогі Г.В. Волкава, кіраўніком Брэст-Літоўскай — І.В. Бурыкіна; аформіць арганізацыю дарог загадам фронту.

У кастрычніку 1939 года Вільня разам з чыгуначнымі шляхамі была перададзена Літоўскай Рэспубліцы, і савецкая Віленская чыгунка атрымала назву Беластоцкая з цэнтрам у аднайменным абласным цэнтры. Пры гэтым на тэрыторыю БССР з Віленшчыны была вывезена значная колькасць польскіх паравозаў і вагонаў. Пазней кіраўніцтва Брэст-Літоўскай чыгункі было пераведзена ў Баранавічы. У заходніх абласцях БССР савецкія ўлады пачалі перашыўку чыгуначных шляхоў з еўрапейскай (1435 мм.) калеі на расійскую (1520 мм.). Былыя польскія чыгуначнікі, у сваёй большасці, былі арыштаваныя НКУС.

Канчатковая змена чыгуначных шляхоў адбылася ўжо пасля Другой сусветнай вайны.

**Фота з уласнага архіву Ігара Мельнікава**

# Забыты беларус з Наваградчыны

Сяргей ЧЫГРЫН

**Культурна-грамадскі і літаратурны месячнік «Летапіс Таварыства Беларускай школы» за кастрычнік-лістапад 1933 года надрукаваў на вокладцы вялікі партрэт прыгожага юнака-студэнта матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта ў чорнай рамцы. Пад партрэтам тэкст: Пятро Першукевіч. Памёр у Наваградку 4.XII.33.**


ЛЕТАПІС
Т-ВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ
КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК
Пятро Першукевіч. Памёр у Наваградку 4.XII.33.
№ 5-6. Вільня, Кастрычнік – Лістапад, 1933. Год I

Вокладка часопіса з партрэтам Пятра Першукевіча

Моладзь Заходняй Беларусі, даведаўшыся пра смерць Першукевіча, была шакаваная. Для беларусаў смерць юнака з Наваградчыны была вялікім неспадзяваным горам.

Пятро Першукевіч быў вельмі таленавітым юнаком. Але звестак пра яго няшмат. Вядома, што ён нарадзіўся ў вёсцы Паплавы на Наваградчыне. Пра гэта сказаў мне дзятлаўскі краязнавец Валерый Петрыкевіч. Дарэчы, Валерый Петрыкевіч — сын Міхася Петрыкевіча, які некалі вучыўся ў Наваградскай беларускай гімназіі. Па словах Валерыя Петрыкевіча, яго бацька памятаў Пятра Першукевіча: у гімназіі юнака ведалі ўсе, бо ён вылучаўся матэматычным талентам і быў добрым спартсменам.

Вёскі Паплавы ўжо не існуе. Знаходзілася яна недалёка ад мястэчка Нягневічы. Моладзь Нягневічаў была даволі дзейснай і актыўнай ва ўсіх беларускіх культурна-масавых мерапрыемствах у 1920-я — 1930-я гады, хоць знаходзіліся яны тады ў Польшчы. У Нягневічах, дзякуючы Першукевічу і яго сябрам, была набытая вялікая хата, якую вясковыя хлопцы і дзяўчаты пераабсталявалі пад Народны дом. Там паказвалі беларускія спектаклі, канцэрты мастацкай самадзейнасці, чыталі лекцыі. Гэты Народны дом будзе створаны пазней — дзесьці ў пачатку 1930-х гадоў, калі Пятро Першукевіч вучыўся ў Вільні.

Першапачатковую адукацыю юнак атрымаў у Наваградскай беларускай гімназіі. Андрэй Чэмер у сваёй кнізе «Наваградская беларуская гімназія» (Вільнюс, 1997) прыгадвае, што Пятро Першукевіч быў вельмі старанным і акуратным, як большасць вучняў з-пад Нягневічаў і Шчорсаў.

Пасля заканчэння гімназіі ў Наваградку, хлопец адразу паступіў на матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Там ён актыўна ўключыўся ў беларускі моладзевы рух. З 1920 года ў Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя дзейнічаў Беларускі студэнцкі саюз (БСС). У снежні 1932 года Пятро Першукевіч становіцца вольным сябрам ураду БСС. А ў студзені 1933 года яго абіраюць сакратаром гэтай арганізацыі.

Вядома, што напачатку калядных канікулаў Беластоцкая акруговая ўправа запрасіла студэнтаў Віленскага ўніверсітэта Марыю Мілючанку (Мілюць), Пятра Чэчку і Пятра Першукевіча, а таксама студэнта Варшаўскага ўніверсітэта Мікалая Орсу на Беласточчыну, каб яны прачыталі беларусам цыкл навукова-папулярных лекцый. Студэнты пагадзіліся. У Беластоку да іх далучыўся і сябра ТБШ Васіль Лукашык.

Пятро Першукевіч у Беластоку прачытаў лекцыі на тэмы «Што мы павінны ведаць аб сусвеце?» і «Цуды тэхнікі», у вёсцы Тапільцы — «Людское жыццё і прырода», у вёсцы Валілы — «Аб прымяненні тэхнікі на вёсцы» і г.д. Першукевіч становіцца адным з самых актыўных сяброў не толькі БСС, але і ТБШ у Заходняй Беларусі.


Навучэнцы Наваградскай беларускай гімназіі. Чацвёрты справа Пятро Першукевіч. Канец 1920-х гадоў

Ён з сябрамі пешшу абышоў ці не ўсю Беласточчыну. Лекцыі студэнтаў вельмі падабаліся людзям. Сяляне ішлі паслухаць выступоўцаў за 10–15 кіламетраў. Яны шчыра віталі лектараў, просячы іх зноў прыязджаць, не забываць іх. Амаль пасля кожнай лекцыі, задавалі выступоўцам сотні пытанняў. А ў некаторых вёсках маладых адукаваных беларусаў не хацелі адпускаць. «Мы ўжо іх карміць, апранаць і, як найлепей, даглядаць будзем», — казалі вяскоўцы.

Паслухаць студэнтаў прыходзілі сяляне, якім было ўжо па 70 і болей гадоў. Старэйшыя беларусы былі вельмі здзіўленыя, што хлопцы і дзяўчаты з гарадоў адкрыта і смела гутараць з імі па-беларуску. Ад такіх доўгіх гутарак, сустрэч, маладыя лектары не паспявалі часам вярнуцца ў Беласток, таму прыходзілася начаваць у вяскоўцаў. Людзі з радасцю іх прымалі дома, стараліся як найлепей сустрэць і пачаставаць іх, просячы прабачэння, калі што не так.

Акрамя лекцый і дакладаў Пятро Першукевіч, Марыя Мілючанка, Мікалай Орса і Васіль Лукашык у памяшканні ТБШ у Беластоку наладзілі вячэрнія заняткі для дарослых. Мілючанка выкладала гісторыю беларускай літаратуры, Лукашык — гісторыю і беларускую граматыку, Орса — біялогію, анатомію і прыроду, а Першукевіч — матэматыку і фізіку. Заняткі адбываліся амаль месяц.

Не забываў Пятро Першукевіч і сваю родную Наваградчыну. Ён актыўна рыхтаваўся да мерапрыемстваў у сваім Нягневіцкім Народным доме. Найперш юнак планаваў правесці цыкл лекцый «Культура і народ» для вяскоўцаў. Але зрабіць гэта не паспеў. 4 снежня 1933 года яго не стала.

Што здарылася з Пятром — дагэтуль застаецца загадкай. Па адной з версій, ён памёр ад сухотаў. Але ў гэта мала верыцца, бо юнак быў фізічна моцным, дагледжаным і матэрыяльна забяспечаным. Ёсць і іншая версія: Андрэй Чэмер у сваёй кнізе «Наваградская беларуская гімназія» сцвярджае, што Першукевіч памёр «без пары з-за аварыі з аўтобусам, якая пакінула сляды». Магчыма, Першукевіч некалі трапіў у аварыю, якая і нанесла шкоду юнаку. Што гэта была за аварыя, калі і дзе яна здарылася, і ці была яна наогул — невядома. Але беларуская грамада, і найперш моладзь, страціла вельмі перспектыўнага і здольнага чалавека.

Пра смерць Першукевіча напісалі і прыгадалі многія віленскія беларускія выданні. Той жа «Летапіс ТБШ» (1933, № 5–6) пісаў: «Усё сваё маладое жыццё ён ахвяраваў працоўнаму народу, ад якога сам паходзіў... Да самай смерці, пакуль білася сэрца, ён не сыходзіў з поля бітвы за асвету народную... Маладая галава не ўмела хіліцца перад няўдачамі. Ён даводзіў задуманае так, як гэта можа зрабіць толькі сапраўдны змагар... Зусім яшчэ мала сярод беларусаў такіх інтэлігентных сілаў, што ўсёй душой лучыліся б з сялянствам і работніцтвам, і вось таму гэта страта для нас асабліва балючая... Пакрыўджаны і прыніжаны беларускі народ пазбаўляецца свайго маладога абаронцы, а наша старонка — слаўнага сына...»

Віленскі часопіс «Шлях моладзі» (1933, № 13) таксама балюча ўспрыняў смерць юнака: «Ён многа чытаў беларускіх лекцый і ладзіў беларускія прадстаўленні. Смерць Першукевіча сумным рэхам адбілася сярод беларускага студэнцтва і старэйшага грамадзянства».

**Фота з уласнага архіву Сяргея Чыгрына**



Вільня


Будынак Наваградскай беларускай гімназіі

# Носьбіт беларушчыны

Лявон ЦЕЛЕШ

**Круглыя даты — нагода згадаць добрага чалавека. Адзін з такіх людзей, пра якіх варта помніць, — празаік, паэт, перакладчык Павел Андрэевіч Місько, якому 14 сакавіка споўнілася б 85 гадоў.**






Павел Андрэевіч родам са Случчыны, з вёскі Старчыцы (зараз Знамя). Яго дзед і бацька былі вядомымі майстрамі на ўсе рукі: маглі і хату збудаваць, і мэблю змайстраваць, і печ скласці. А маці, Ганна, славілася як выдатная казачніца. Таму і не дзіўна, што ўсе гэтыя якасці перадаліся ў спадчыну і Паўлу.

У дзяцінстве Павел вельмі любіў хадзіць па грыбы, і гэтае захапленне засталося ў яго на ўсё жыццё. Выдатны грыбнік, ён і кошыкі для грыбоў плёў такія, што вачэй не адвесці.

У 1955 годзе Павел Місько скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, быў накіраваны на працу журналістам у давыд-гарадоцкую «раёнку» «Сцяг Леніна». Потым працяглы час Павел працаваў уласным карэспандэнтам газеты «Звязда» па Гродзенскай вобласці. Менавіта тады ён пазнаёміўся і пасябраваў з народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым. Давялося Місько працаваць і ў штотыднёвіку «ЛіМ», і ў часопісе «Полымя», і ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Друкавацца Павел Місько пачаў яшчэ з 1954 года, а як пісьменнік дэбютаваў апавяданнем у альманаху «Брэст» у 1958-м. Першы зборнік апавяданняў і аповесцяў пісьменніка «Калодзеж» пабачыў свет у 1967 годзе. Пасля былі творы аб падзеях Вялікай Айчыннай вайны: «Поезд ішоў на Захад» (1972 г.), «Калёнае лісце» (1974 г.), аб жыцці пасляваеннай вёскі («Дрэва жыцця», 1973 г.).

Пасля было яшчэ шмат цікавых і змястоўных выданняў. А апошняя кніга прозы Паўла Андрэевіча — «Прыгавораны да жыцця» — выйшла ў 2007 годзе. У яе ўвайшлі творы, якія былі напісаныя ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў і адлюстроўваюць псіхалогію чалавека на пераломе гісторыі. Рэальнае ў іх пераплятаецца з фантастычным, а фантастычнае — з антыўтопіяй. Аповесці, дзеянне якіх адбываецца на абшарах ад чарнобыльскай вёскі да далёкіх планет, не пакінуць абыякавымі аматараў вострых адчуванняў, а таксама тых, хто знудзіўся па дабраякаснай прозе.

Але найбольшую вядомасць і любоў самай удзячнай аўдыторыі — дзіцячай, — яму прынеслі казкі і фантастычныя творы для дзяцей, якія прасякнутыя наскрозь беларускасцю, сакавітай мовай, аналагаў якой няма ў сучаснай дзіцячай літаратуры, і аздоблены цёплымі добрымі ілюстрацыямі. Гэта, напрыклад, «Грот афаліны» (1985 г.), дзеянне якога адбываецца на востраве пад назвай Рай, і распавядаецца пра сяброўства дэльфіна з чалавекам.

Захапляльныя сюжэты таксама ў такіх дзіцячых творах, як «Прыгоды Бульбобаў» (1977 г.), дзе расповед ідзе ад імя шчанюкоў, і, канешне ж, «Эрпіды на планеце Зямля» (1987 г.), пра тое, як на нашу планету прылятаюць разведчыкі-робаты іншай цывілізацыі. А яговыя «Навасёлы» былі сапраўдным бестселерам (калі б у СССР было такое паняцце).

Пісаў Місько і казкі — «Прыйдзі, дзень-залацень» (1993 г.), дзе распавядаецца аб прыгодах і сталенні хлопчыка Ваняткі, і «дзіцячую публіцыстыку» — «Зямля ў нас такая» (1974 г.). Яго творы нясуць дзецям дабрыню і беларускае светабачанне, дапамагаюць быць беларусамі з дзяцінства. На маю думку, калі дзеці будуць чытаць такія кнігі, якія напісаў Павел Місько, то яны вырастуць сапраўднымі беларусамі.

Павел Місько меў адкрыты, добры і характар, ставіўся да жыцця з гумарам. Адпаведна, не маглі не ўзнікнуць і сатырычныя творы: «Дзівак — чалавек» (1972 г.), «Чэрці ў коміне» (1978 г.), «Вясельны марафон» (1984 г.), «Адарка і пацукі» (2001 г.). Добра сябраваў пісьменнік і з паэзіяй. У 2005 годзе выйшаў яго раман у вершах «Пакуль зямлю мілуе сонца», а ў 2001 годзе — зборнік вершаў «Ружовыя ліўні».

Паўла Андрэевіча ведалі і як драматурга (п’есы «Ліха крадзецца ціха» (1976 г), «Канфлікт мясцовага значэння» (1989 г.), і як таленавітага перакладчыка. Гэта ён пераклаў на беларускую мову «Мёртвыя душы» Мікалая Гогаля, казку Яршова «Канёк-гарбунок», і ўвогуле шмат чаго яшчэ з рускай, украінскай, балгарскай, польскай моваў.

Пры сваім 80-гадовым жыцці Павел Місько з-за сваёй сціпласці не меў асабістых званняў і рэгалій. Але, мабыць, самай вялікай узнагародаю пісьменніку сталіся чытацкая любоў і ўдзячнасць.



КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________

Кассир Всего ________

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб., **квартала — 90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 231

Падпісана да друку 10. 03.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.